



# Рэгіянальная газета.

Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

31 ліпеня 2020 года №31 (1318)

18+




## У Вілейскай ЦРБ абследуюць на анкалогію бясплатна і без болю



Звяртацца ў цэнтр скрынінга могуць жыхары Вілейшчыны, а таксама пацыенты з Маладзечна, Мядзела, Валожына

старонка 5

Фота Міхася КУЛЯША.









## Што адбываецца ў выбарчай гонцы

старонкі 20-21

## Уважаемые труженики, ветераны и молодёжь Белорусской железной дороги!

**Руководство, Райпрофсож и Совет ветеранов Минского отделения Белорусской железной дороги искренне и сердечно поздравляют Вас с профессиональным праздником – Днём железнодорожника!**

Спасибо Вам за преданность выбранному делу, которое требует большой ответственности, дисциплины и самоотдачи, за Вашу самоотверженность и мастерство, энергию и энтузиазм, которые позволяют Вам успешно решать стоящие перед нами задачи, обеспечивать стабильную и эффективную работу железнодорожного транспорта, трудиться на благо Республики Беларусь.

От всей души желаем, чтобы Ваш труд всегда был востребован экономикой и обществом. Пусть работа приносит Вам истинное удовольствие и получает заслуженную благодарность тех, для кого Вы работаете. Крепкого здоровья, счастья и благополучия Вам и Вашим близким.

**Начальник УП «Минское отделение Белорусской железной дороги»
А.А.ХОРОШЕВИЧ**

**Председатель Райпрофсожа УП «Минское отделение Белорусской железной дороги»
А.В.КУНЦЕВИЧ**

**Председатель Совета ветеранов УП «Минское отделение Белорусской железной дороги»
Л.А.САФОНОВА.**

ISSN 1991–7155




Адсканўйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# У Астраўцы паставілі помнік мурамскім святым

**На пачатку ліпеня ў Астраўцы адкрылі помнік мурамскім святым Пятру і Фяўронні. «РГ» разбіралася, чаму ў Астраўцы паставілі помнік святым, якія, адпаведна паданню, жылі ў тысячы кіламетрах ад беларускага горада. А таксама расказваем, каго з беларускіх дзеячаў на Астравеччыне яшчэ не ўшанавалі.**

### Хто такія Пётр і Фяўроння?

Князь Пётр і Фяўроння ў летапісах не ўпамінаюцца. Гэта не значыць, што іх не існавала, але ў пісьмовых крыніцах згадак няма. У «Вялікай энцыклапедыі рускага народа» імя Пятра Мурамскага атаясамліваюць з князем Давідам Юр'евічам, некаторыя – з сынам Давіда.

**Адзіная крыніца інфармацыі пра гэтых святых – «Аповесць аб Пятру і Фяўронні». Яна датаваная канцом 1540-х гадоў. У 1547 годзе царкоўны сабор кананізаваў іх у якасці мясцовашанаваных, значыць, у рамках асобнай епархіі. Дзень памяці – 8 ліпеня.**

Помнікі святым устанаўліваюць ад 2009 года ў рамках расійскай нацыянальнай праграмы. Мэтай помнікаў з'яўляецца «стварэнне станоўчага вобразу сямейных каштоўнасцей, верных і нявінных адносін, любові і адданасці ў шлюбе, нараджэнне і выхаванне дзяцей у духу любові да радзімы». Мяркуецца, што помнікі Пятру і Фяўронні будуць наведваць вясельныя працэсіі.

### Што напісалі ў іх Жыцці?

Жыціе пачынаецца з перадгісторыі пра брата Пятра Паўла ў Мураме. Жонку князя Паўла спакушаў д'ябал, а Пётр забіў яго, але сам пацярпеў. Ад крыві д'ябла яго скура пакрылася язвамі. Пётр паехаў у Разань, каб вылечыцца. Каля Разані яго пасыльны сустрэў дзяўчыну Фяўронню, якая пасля вылечыла Пятра. Узамен на лячэнне Пётр ажаніўся з Фяўроняй.

Напачатку Пётр і Фяўроння шчасліва жылі ў Мураме, аднак жонкам мясцовых баяр Фяўроння не падабалася. Яны падгаварылі мужоў, каб тыя папрасілі Пятра звезці Фяўронню. Князь пагадзіўся з'ехаць толькі з жонкай, таму пакінуў Мурам баярам.

Прайшоў час, баяры самі папрасілі Пятра і Фяўронню вярнуцца ў Мурам на княжанне, таму што без князя горад прыйшоў у заняпад.

### Хто і чаму паставіў гэты помнік

Помнік мурамскім святым паставіла карпарацыя «РосэнергаАтам». Яна будуе атамную электрастанцыю ў Астраўцы, а ў мінулым годзе зрабіла для горада баскетбольную пляцоўку.

Помнік адкрылі 10 ліпеня старшыня раённага Савета дэпутатаў **Ірына Тальчук** і протаіерэй **Георгі Савіцкі**. Па іх словах, якія прыводзіць мясцовая раённая газета, помнік гэтым святым уже даўно чакалі ў Астраўцы.

Тальчук распавяла, што мурамскія святыя – гэта сімвал шлюбу. Савіцкі сказаў, што помнік з'явіўся толькі дзякуючы рускай кампаніі.

### Каму на Астравеччыне можна паставіць помнік

Краязнаўца **Алесь Юркойць** займаўся вывучэннем астравецкага рэгіёна і нават устанавіў помнікі на гэтай зямлі. У вёсцы Слабодка паставіў помнік паўстанцам да юбілею паўстання Каліноўскага. Таксама Юркойць арганізаваў касінерскі фэст у гонар паўстання 1863-1864 гадоў.

Юркойць таксама быў стваральнікам краязнаўчай суполкі Астравеччыны «Вільняр». Ён запрасіў на летнік беларускіх і замежных скульптараў, каб тыя стварылі ў Астраўцы арыгінальныя кампазіцыі.

«РГ» паразмаўляла з журналістам і краязнаўцам **Віктарам Шукеловічам** пра вядомых людзей, у гонар якіх можна было б паставіць помнік на Астравеччыне.

**Казімір Сваяк**. Сапраўднае імя каталіцкага святара, асветніка і паэта – **Канстанцін Стаповіч**. Ён працаваў у Клюшчанах, напісаў зборнік «Мая ліра», асобна выдаваліся шматлікія апавяданні. Пахаваны на Росах у Вільні.

**Марына Сунігайлава**. Марына была жонкай дзяржаўнага дзеяча ВКЛ Сунігайлы. Згодна з генеалогіяй роду Сапегаў, Сунігайла быў сынам Пунігайлы і бацькам Сямёна Сапегі (родапачынальнік роду Сапегаў). Марына Сунігайла пасля смерці мужа дала сродкі на будаўніцтва касцёла ў Варнянах, а таксама займалася асветай на Астравеччыне.

**Ягайла**. Вялікі князь літоўскі і польскі кароль Ягайла пабудаваў касцёл у Быстрыцы ў 1390 годзе. Сярод заслуг Ягайлы можна назваць паспяховую «Вялікую вайну» 1409-1411 гадоў разам з Вітаўтам супраць крыжакоў Тэўтонскага ордэна.

**Мар'ян Богуш-Шышка**. Вядомы мастак і мастацтвазнаўца, які жыў пад Астраўцом у Тракеніках. Ён памёр у 1995 годзе ў Лондане, а ў Тракеніках засталася яго сядзіба.




Фота Юрыя ГОРЫДА, instagram.com/goridphoto.

Помнік мурамскім святым у Астраўцы.


Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

Што можна купіць на 22 рублі Міраславе і Яну?

# На вільготныя сурвэткі хопіць, на падгузнікі – не

## Дапамога на дзіця ўзрасла больш чым на 22 рублі. Што можна за іх купіць

**Ад 1 жніўня ў Беларусі вырастуць дапамогі па доглядзе за дзіцем ва ўзросце да трох гадоў. Пра гэта паведамляе Мінпрацы.**

Дапамога на першае дзіця складзе 427,84 рубля (цяпер – 405,48 рубля), на другое і наступных дзяцей – 488,96 рубля (цяпер – 463,4 рубля), на дзіця-інваліда – 550,08 рубля (521,33 рубля).

Гэта планавае павышэнне памеру дапамогі залежыць ад таго, як змянілася сярэдняя зарплата па краіне за папярэдні квартал. Калі сярэдняя зарплата падае або не змяняецца, то памер дапамогі застаецца на ранейшым узроўні, а калі расце, то следам падымаюць і дапамогі.

Цяпер на першае дзіця бацькі атрымаюць на 22 рублі 36 капеек больш, чым раней. Паглядзім, што за гэтыя грошы можна набыць для немаўляці. Напрыклад, гэтых грошай хопіць на нейкую з развіццёвых цацак – азбуку на батарэйках, драўляны паравозік, вазок для лялькі.

У 20 рублёў можна ўкласціся, набыўшы дзіцяці вялікую пачку, больш за дзвесце штук, вільготных сурвэтак. А вось на пачку 72 падгузнікаў для дзяцей ад двух да пяці кілаграмаў, не хопіць. Пяць рублёў бацькі мусяць дакласці.

Гэтых грошай хопіць, каб купіць недарагія мыйныя сродкі для малечы – шампуні, мыла, крэмы, прысыпкі, гігіенічныя пялюшкі, пральны парашок для дзіцячага адзення.

У пяць рублёў можна ўкласціся, набыўшы бюджэтны гаршчок. Прыкладна такой жа сумы хопіць на патрэбныя дробязі ў выглядзе сосак, бутэлечак. А за 12 рублёў можна ашчаслівіць дзіця маленькай пластыкавай табурэткай.

Калі мама не корміць дзіця грудным малаком, мусіце купляць сухія сумесі. На пачку такой ежы швейцарскай вытворчасці масай у 400 грамаў 22 рублі не хопіць, бо каштуе яна 25. Калі вашаму дзіцяці падыходзіць беларуская сумесь, то за 22 рублі можна набыць пяць пачак па 400 грамаў.

У інтэрнэт-крамах у межах 17-20 рублёў прапануюць трыкатажныя касцюмчыкі для немаўлят на кожны дзень. Бодзі за гэтыя грошы можна набыць нават два.

Калі адзенне з больш дарагога матэрыялу, напрыклад велюру, бацькам зноў жа прыйдзецца дакладаць пяць, а то і дзесяць рублёў.

Падрыхтавала
**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У ААН звязалі смяротнасць ад каронавіруса з забруджанасцю паветра

**Моцная забруджанасць паветра можа выклікаць павышэнне ўзроўню смяротнасці ад захворвання, выкліканага каронавірусам. Пра гэта гаворыцца ў апублікаваным у аўторак дакладзе ААН аб уздзеянні пандэміі на жыццё ў буйных гарадах.**

Пры гэтым у арганізацыі папярэдзілі: калі не прыняць меры па ахове навакольнага асяроддзя ў працэсе зняцця карантынных мер, ачышчэнне паветра стане толькі часовым дасягненнем. У сувязі з гэтым генеральны сакратар ААН Антоніу Гутэрыш заклікаў «трымацца зялёнай палітыкі пры інклюзіўным аднаўленні эканомікі».

«У многіх гарадах былі створаны новыя веладарожкі, пешаходныя зоны, што дазваляе палепшыць бяспеку перамяшчэння і якасць паветра», – адзначыў ён.

«Стымулюючыя выплаты ўрадаў могуць дапамагчы нам на шляху да выканання мэт устойлівага развіцця, калі яны будуць сфакусіраваныя на экалагічнай трансфармацыі і стварэнні новых працоўных месцаў», – сказаў на заканчэнне генеральны сакратар.

У ААН таксама распавялі, што каля 90% зафіксаваных выпадкаў інфіцыравання каронавірусам прыпадае на буйныя гарады.

Пры гэтым, як адзначылі ў ААН, гэта неабавязкова звязана з высокай шчыльнасцю насельніцтва. «Буйныя гарады бываюць уразлівыя з-за іх арганізацыі, асаблівасцяў умоў жыцця, працы і рухаў іх жыхароў», – падкрэсліваецца ў дакладзе.

«Неабходна забяспечыць, каб на ўсіх этапах адказ на выклікі пандэміі ўключаў у сябе ліквідацыю няроўнасці, – заявіў Гутэрыш. – Нам трэба паставіць у аснову абарону найбольш уразлівых жыхароў нашых гарадоў, у тым ліку стварыць прытулкі і новыя дамы для бяздомных». «Гэта наш шанец зрабіць свет лепшым, чым да пандэміі, стварыць больш устойлівыя, інклюзіўныя і экалагічныя гарады», – сказаў на заканчэнне ён.

**Паводле tass.ru.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**381**

стольві рынкаў працавала ў Беларусі на пачатак 2020 года

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 23.07 руб. | 30.07 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2.3854 | **2.4180** |
| Еўра | 2.7494 | **2.8413** |
| Злоты, 10 | 6.2132 | **6.4266** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.3672 | **3.3462** |
| Грыўня, 100 | 8.5829 | **8.7371** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **22.07** | **29.07** |
| Еўра | 2.7000/2.7900 | **2.7900/2.8800** |
| Долар ЗША | 2.3500/2.4300 | **2.3800/2.4600** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 22.07 Цана, руб. | 29.07 Цана, руб. |
|---|---|---|
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 20,80 | **20,80** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | **3,25** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,60 | **7,60** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,20 | **5,20** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 6,30 | **6,30** |
| Селядзец, 1 кг | – | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 16,90 | **16,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,20 | **2,00** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,30** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,85 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Агуркі, 1 кг | 1,20 | **1,40** |
| Бульба, 1 кг | 1,00 | **0,80** |
| Буракі, 1 кг | 1,20 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | **0,90** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 1,80 | **1,70** |
| Памідоры, 1 кг | 2,90 | **2,40** |
| Перац, 1 кг | 2,80 | **4,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 6,90 | **5,90** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | **4,90** |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Вінаград, 1 кг | 6,90 | **5,90** |
| Грушы, 1 кг | 4,90 | **4,50** |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Ківі, 1 кг | 7,90 | **6,50** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 5,90 | **5,80** |
| Нектарыны, 1 кг | 5,90 | **4,50** |
| Персікі, 1 кг | 4,90 | **4,70** |
| Чарэшні, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 3,90 | **4,00** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 16,00 | **16,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Сутыкнуліся грузавік і легкавік

**СМАРГОНЬ**

26 ліпеня, каля дзевяці вечара, выратавальнікам паступіла паведамленне пра ДТЗ на аўтадарозе Р63 каля вёскі Арэхаўка.

Калі падраздзяленні МНС прыбылі да месца выкліку, высветлілася, што сутыкнуліся легкавы аўтамабіль «Аўдзі» і грузавы «Вольва».

У выніку ДТЗ кіроўцу легкавіка заціснула ў салоне. Работнікі МНС пры дапамозе адмысловай прылады дэблакіравалі мужчыну. З траўмамі рознай ступені цяжкасці яго даставілі ў бальніцу. Кіроўца грузавога аўтамабіля не пацярпеў.

**Паводле сайта МНС.**

## Мужчына пайшоў у ягады і заблудзіў

**МЯДЗЕЛ**

26 ліпеня ўвечары выратавальнікам паведамілі пра тое, што патрабуецца дапамога ў пошуку мужчыны на Мядзельшчыне. Ён пайшоў у лес, што каля вёскі Канстанцінава, і заблудзіў.

Работнікам МНС, якія прыбылі на месца, стала вядома, што каля 11 дня 48-гадовы мужчына сышоў у лес, у ягады. У пошуках удзельнічалі работнікі МНС, РАУС і мясцовыя жыхары. У 5:22 27 ліпеня работнікі МНС знайшлі зніклага каля вёскі Канстанцінава. Медыцынская дапамога яму не была патрэбная.

**Паводле сайта МНС.**

## Хацеў незаконна вывезці ў Расію паўтары тоны каляровага металу

**МАЛАДЗЕЧНА**

Маладзечанца на аўтамабілі праваахоўнікі затрымалі ў Дубровенскім раёне. Ён хацеў нелегальна вывезці ў Расію буйную партыю каляровага металу, паведаміў афіцыйны прадстаўнік УУС аблвыканкама **Віталь Сапроненка**.

Аўтамашыну «Опель-Мавана», якой кіраваў жыхар Маладзечна, супрацоўнікі АДАІ і АБЭЗ Аршанскага РАУС затрымалі 14 ліпеня каля апоўначы на аўтадарозе Брэст – Мінск – мяжа РФ каля вёскі Сянцюры.

У аўтамабілі былі шматлікія схованкі – падвойнае дно, пад дахам, паміж ашалёўкай салона, у бакавых стойках сядзенняў, – у якіх уладальнік спрабаваў вывезці для збыту ў Расію паўтары тоны каляровага металу.

Кошт грузу, які складаўся ў асноўным з меднага дроту і элементаў труб, ацэньваецца амаль у 4 600 рублёў.

Устаноўлена, што лом медзі мужчына нарыхтоўваў сярод насельніцтва свайго раёна без спецыяльнага дазволу. Раней ён ужо трапляў за аналагічнае правапарушэнне ў поле зроку праваахоўных органаў.

У дачыненні да парушальніка складзены адміністрацыйны пратакол па частцы 1-1 артыкула 12.7 КаАП. Груз канфіскавалі.

**Паводле БелТА.**

## Зніклую маму малых дзяцей знайшлі ў невядомай кватэры

**ВІЛЕЙКА**

28-гадовая віляйчанка сышла з дому 19 ліпеня. Пра знікненне жонкі заявіў муж, паведамілі ў Вілейскім РАУС. 24 ліпеня пасля публікацый у СМІ жанчыну знайшлі.

– Пасля публікацый у СМІ нам пачалі тэлефанаваць людзі і казаць, што бачылі зніклую ў Вілейцы. Шукаць жанчыну дапамагалі яе знаёмыя. Адзін з сяброў сям'і даведаўся, што жанчына знаходзіцца ў кватэры, у мікрараёне Воўкаўшчына. Пра гэта паведаміў мужу, пасля – у міліцыю, – распавялі ў РАУС.

Што жанчына рабіла ў чужой кватэры, яна патлумачыць не змагла.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## З дачніка суд спагнаў амаль 13 тысяч рублёў за пажар

**СМАРГОНЬ**

Па патрабаванні пракурора Смаргонскага раёна з вінаватага спагналі шкоду, прычыненую навакольнаму асяроддзю за неасцярожнае абыходжанне з агнём.

Сёлета вясной жыхар Смаргонскага раёна С. спальваў на сваім дачным участку смецце. Моцны вецер распаўсюдзіў полымя вогнішча на суседнія гаспадарчыя пабудовы і нежылы дом. На плошчы ў 40 тысяч квадратных метраў згарэла сухая расліннасць на сельскагаспадарчых землях.

Памер нанесенай навакольнаму асяроддзю шкоды перавысіў 17 тысяч рублёў. Згодна з заключэннем РАНС, прычынай пажару стала парушэнне дачнікам правілаў бяспекі пры развядзенні вогнішча.

Паколькі сваімі дзеяннямі С. нашкодзіў прыродзе, пракурор Смаргонскага раёна прад'явіў да яго іск у інтарэсах дзяржавы.

Суд Смаргонскага раёна задаволіў патрабаванні пракурора – з адказчыка з улікам яго матэрыяльнага становішча спагнаныя 12 900 рублёў.

**Паводле Генеральнай пракуратуры.**



На месцы здарэння.

Фота забяспечана Дыянай ГАЛУЗАЙ.

# Машына стукнулася ў дрэва

## Магчыма, з-за таго, што кіроўца страціў прытомнасць

**МАЛАДЗЕЧНА**

**24 ліпеня на Маладзечаншчыне здарылася аварыя. 81-гадовы кіроўца-маладзечанец на аўтамабілі «Мазда» стукнуўся ў дрэва.**

– ДТЗ адбылося каля 11 дня на 78 кіламетры дарогі Мінск-Нарач. Кіроўца ехаў з боку Маладзечна ў бок Вілейкі. Ні спадарожных, ні сустрэчных машын не было. Са слоў кіроўцы, ён на нейкі момант страціў прытомнасць. Калі ачуняў, убачыў, што наехаў на дрэва, – расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

Са слоў жонкі кіроўцы, якая таксама ехала з ім у машыне, яна заўважыла, што муж пачаў даваць управа, закрычала, каб тармазіў. Але мужчына не рэагаваў.

На месцы працавалі супрацоўнікі ДАІ і «хуткай дапамогі».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Вілейскім РАУС – новы начальнік крымінальнага вышуку

**ВІЛЕЙКА**

Ад 27 ліпеня на пасаду начальніка аддзялення крымінальнага вышуку прызначылі маёра міліцыі **Пятра Славамíравіча Вайцюльяна**.

Пра кадравыя змены расказаў намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Мікалай Мягкоў**.

Пётр Вайцюльян нарадзіўся 11 лістапада 1986 года ў Мядзеле.

Мае вышэйшую адукацыю. У 2009 годзе скончыў Акадэмію МУС.

Раней служыў старшым оперупаўнаважаным групы па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі ў Мядзельскім РАУС. Мае дзяржаўную ўзнагароду – медаль «За бездакорную службу трэцяй ступені».

Раней гэту пасаду займаў **Дзмітры Антановіч**. Ад красавіка Антановіч працуе першым намеснікам Мядзельскага РАУС. Да гэтага часу пасада ў Вілейскім РАУС была вакантная.

**Аддзел інфармацыі.**

## У аднаго гаспадара знайшлі самагонны апарат і плантацыю маку

**ВІЛЕЙКА**

Супрацоўнікі ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі УУС Мінаблвыканкама на прысядзібным участку аднаго з дамоў у аграгарадку Касцяневічы знайшлі самагонны апарат з некалькімі дзясяткамі літраў сурагату і плантацыю маку.

Незаконным вырабам спіртнога займаўся мясцовы жыхар.

Па яго словах, апарат ён змантаваў па інфармацыі, знойдзенай у інтэрнэце.

Як паведаміў намеснік начальніка ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі УУС **Андрэй Амбражэй**, які браў удзел у рэйдавым мерапрыемстве, фігурант заявіў, што самагон ён паспеў выгнаць толькі адзін раз, для сябе.

У ходзе далейшага агляду зямельнага ўчастка таксама знайшлі значныя пасевы маку. Правапарушальнік растлумачыў, што мак насеяўся сам. Пры гэтым пасеў, у дадзеным выпадку, вырошчванне маку цягне накладанне штрафу ў памеры да дваццаці базавых велічынь (артыкул 16.1 КаАП) – да 540 рублёў. Захоўванне самагоннага апарата пагражае штрафам да пяці базавых велічынь (артыкул 12.43 КаАП) – 135 рублёў – з яго канфіскацыяй. Па ўказаных фактах праводзіцца далейшая праверка.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Начальнік міліцыі Маладзечна атрымаў пагоны палкоўніка

**МАЛАДЗЕЧНА**

24 ліпеня міністр унутраных спраў **Юры Караеў** уручыў пагоны палкоўніка міліцыянерам і вайскоўцам. Чарговае званне атрымаў і начальнік Маладзечанскага РАУС.

У адпаведнасці з указам **Аляксандра Лукашэнкі** ад 17 ліпеня, ва ўрачыстай абстаноўцы пагоны палкоўніка міліцыі ўручылі **Вадзіму Прыгару**.

Таксама званне палкоўніка міліцыі атрымаў **Яўген Жылінскі**. Цяпер ён начальнік Дзяржынскага РАУС. А раней быў намеснікам начальніка Маладзечанскага РАУС.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# У Вілейскай ЦРБ абследуюць на анкалогію бясплатна і без болю

## Глядзіце, каго і як

ВІЛЕЙКА

**У Цэнтры скрынінгу і ранняй дыягностыкі раку рэалізуюць пілотны праект Міністэрства аховы здароўя. У рамках яго жыхары Вілейкі і суседніх гарадоў могуць бясплатна абследавацца на наяўнасць анкалогіі, калі яшчэ няма сімптомаў.**


Фота Міхаіла КУЛЯША.

У Цэнтры скрынінгу.

Пра тое, як гэта працуе і каму могуць зрабіць бясплатнае даследаванне, нам расказала загадчыца аддзялення скрынінгу анкалагічных захворванняў Вілейскай ЦРБ **Лілія Зянько**.

### Чаму скрынінг так важны для вашага здароўя

– У сувязі з ростам анкалогіі ў Беларусі Міністэрства аховы здароўя ладзіць пілотны праект у нас, у Вілейцы. Медыкі вывучылі досвед замежных калег у барацьбе з анкалогіяй.

> **Напрыклад, у свой час у Японіі шмат людзей памірала ад раку страўніка. Пачалі праводзіць скрынінг, і ў выніку за пяць год звялі смяротнасць ад гэтага захворвання да нуля, – расказвае Лілія Іванаўна.**

Каб людзі ішлі на даследаванне, скрынінг павінны быць бясплатны, даступны, эфектыўны і без болю, кажа яна. Менавіта так яго робяць у Вілейскай ЦРБ.

> **Па словах доктара, у Цэнтры скрынінгу і ранняй дыягностыкі раку можна прайсці бясплатнае даследаванне менавіта тады, калі яшчэ няма сімптомаў.**

### Глядзіце, якія працэдуры і каму робяць

• Скрынінг раку малочнай залозы ў жанчын 50-69 год;

• скрынінг раку прастаты ў мужчын 50-65 год;

• скрынінг раку лёгкага ў мужчын 50-70 год, якія доўга і шмат кураць;

• скрынінг раку кішэчніка ў мужчын і жанчын 50-60 год.

### Часта сімптомы раку з'яўляюцца толькі на трэцяй-чацвертай стадыі

– Напрыклад, для правядзення дыягностыкі раку кішэчніка закупленыя спецыяльныя дарагія тэсты. Іх пацыент робіць дома на працягу двух дзён. Потым прыносіць нам. Мы перадаём тэсты ў РНПЦ. Калі які-небудзь з іх акажаецца станоўчым, мы выклікаем пацыента, і ў Цэнтры пад анестэзіяй праводзім даследаванне на сучасным абсталяванні, – тлумачыць доктар.

Такім чынам з 17 тэстаў на рак кішэчніка два аказаліся станоўчымі. Дзякуючы даследаванню ў людзей выявілі рак на ранняй стадыі.

– Рак кішэчніка страшны тым, што сімптомы з'яўляюцца толькі на трэцяй-чацвертай стадыі, калі пацыенту, часцей за ўсё, не акажаш ніякай дапамогі, акрамя паліятыўнай, – кажа Лілія Іванаўна.

Таксама ў рамках праекта дыягнаставалі на ранніх стадыях два выпадкі раку прастаты.

### З-за пандэміі людзі сталі менш звяртацца

– Раней даследаванні праводзілі больш актыўна. Я шмат ездзіла па прадпрыемствах, расказвала аб праекце, раздавала тэсты. Цяпер жа з-за пандэміі людзі не так актыўна звяртаюцца да нас. Асабліва мала з Маладзечна і Мядзела. Хацелася б большай актыўнасці, – падсумавала доктар.

Калі ў вас з'явіліся пытанні наконт скрынінгу, звяртайцеся па тэлефонах:

**(8-01771) 5-58-50** – рэгістратура Цэнтра скрынінгу,

**(8-01771) 5-45-74** – загадчык,

**(+375-44) 558-50-58 –** службовы мабільны тэлефон (ад 8:00 да 16:00).

Цэнтр знаходзіцца ў паліклініцы па адрасе: **Маркава, 27.**

Рак – другая прычына смяротнасці пасля захворванняў сардэчна-сасудзістай сістэмы. А ў некаторых развітых еўрапейскіх краінах анкалогія пачала выходзіць на першае месца. Штогод у свеце ад раку памірае каля дзесяці мільёнаў чалавек. У Беларусі за апошнія дзесяць год штогадовы прырост новых выпадкаў складае каля тысячы. Сёння дзякуючы развіццю навукі і сучаснаму медыцынскаму абсталяванню больш за палову анкалагічных пацыентаў паспяхова лечаць, калі тыя звярнуліся своечасова. Большасць распаўсюджаных форм раку – невылечныя. А тэрапія праводзіцца толькі для таго, каб працягнуць жыццё. Таму выяўленне і лячэнне пухліны на ранніх стадыях, да яе распаўсюджання, з'яўляюцца найбольш эфектыўным метадам па зніжэнні смяротнасці.


Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Давярайце чыстку любімых рэчаў прафесіяналам

## У гандлёвым цэнтры «Спадарожнік» адкрылі новы прыёмны пункт



МАЛАДЗЕЧНА

**Ідзяце за пакупкамі ў ГЦ «Спадарожнік» па Вялікім Гасцінцы, 67-Г-1? Звярніце ўвагу на новы аб'ект. Паміж крамамі «Святлафор» і «Jysk» працуе пункт бытавых паслуг ад «Завода Рамбыттэхніка».**

Прыёмны пункт – невялікі. Але выглядае эстэтычна, як усе аб'екты завода. Тут акажуць наступныя паслугі:

– хімчыстка адзення, абутку, дываноў;

– рамонт абутку;

– рэалізацыя пасцельнай бялізны, коўдраў, падушак, мангалаў і шмат чаго.

Хімчыстка абутку – новы кірунак. У італьянскай машыне з парагенератрам – мыйныя сродкі і сушка з азанаваннем. Пасля чысткі красоўкі або чаравікі будуць чыстыя, з прыемным пахам, без мікробаў. Такога эфекту не будзе ў пральнай машыне. Карыстайцеся акцыяй – прыносьце абутак у рамонт і атрымлівайце 50-працэнтную зніжку на чыстку.

Хімчыстка ў кліентаў найбольш папулярная. На дарагім абсталяванні тут пачысцяць усё: ад паліто да дываноў.

Месца для пункта ў «Спадарожніку» палічылі выгадным. Тут крамы, месцы адпачынку. Людзі едуць з усяго рэгіёна.

Кліенты прадпрыемства – і гараджане, якіх вабяць якасць і даступнасць, і сталыя вяскоўцы, што здаюць рэчы ў выязныя пункты. Навошта паспяховаму заводу яшчэ адзін пункт? Каб пашырыцца ў горадзе ў мэтах эканамічнай эфектыўнасці.

Прыёмныя пункты ў Маладзечне:

• вуліца Грамадоўская, 47, ААТ «Завод Рамбыттэхніка»;

• вуліца Будаўнікоў, 15-а, «Дом быту»;

• вуліца Прытыцкага, 3-а, «Style-цэнтр»;

• вуліца Янкі Купалы, 110, цырульня «Купалінка».

Абірайце найбольш зручны і прыносьце рэчы, каб даверыць іх прафесіяналам.

**Час працы прыёмнага пункта:** серада-нядзеля ад 10:00 да 19:00.

Перапынак: ад 14:00 да 15:00.




Прыёмшчыца заказаў Аксана Шнітоўская.

# Доктара з Маладзечанскай ЦРБ Аляксандр Лукашэнка узнагародзіў медалём

## Адзначылі і некаторых іншых медыкаў рэгіёна за барацьбу з каронавірусам

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН

**23 ліпеня Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб узнагароджанні. Сярод уганараваных медалём «За працоўныя заслугі» – доктар анестэзіёлаг-рэаніматолаг з Маладзечанскай ЦРБ.**

Гэта **Настасся Горбач.** Яна працуе ў аддзяленні анестэзіялогіі і рэанімацыі бальніцы №1. Узнагароду ўручаюць за шматгадовую працу, высокі прафесіяналізм, значны асабісты ўклад у ахову здароўя насельніцтва, арганізацыю і аказанне медыцынскай дапамогі хворым на каронавірус, укараненне новых метадаў дыягностыкі і лячэння.

Днямі ў сталічным Палацы культуры прафсаюзаў урачыста ўзнагародзілі медыкаў Мінскай вобласці.

**Сярод іх – супрацоўнікі Валожынскай, Вілейскай і Маладзечанскай ЦРБ.**

На ўрачыстым узнагароджанні прысутнічалі прэм'ер-міністр **Раман Галоўчанка**, старшыня Мінаблвыканкама **Аляксандр Турчын**, намеснік старшыні Савета Рэспублікі **Анатоль Ісачанка**, першы намеснік міністра аховы здароўя, ураджэнец Вілейшчыны **Дзмітры Піневіч**.

З Маладзечанскай ЦРБ узнагароды атрымалі дактары агульнай практыкі **Ала Дударэнка** і **Мікіта Малашка**, галоўны доктар Маладзечанскай ЦРБ **Дар'я Калядзіч**. З Вілейскай ЦРБ адзначылі медсястру **Наталлю Кужаль**, з Валожынскай – анестэзіёлага-рэаніматолага, загадчыка аддзялення анестэзіялогіі і рэанімацыі Валожынскай ЦРБ **Дзмітрыя Старыкевіча**.


Фота Настасі УПІРАЙ.

Медыкаў рэгіёна адзначылі за барацьбу з каронавірусам.

– Рэаніматолагі павінны быць гатовыя да любых неприемнасцяў, – упэўнены Дзмітры Старыкевіч. – Так, было цяжка, было нечакана. Наш графік змяніўся, мы тры з паловай месяцы жылі ў бальніцы і не бачылі родных. Цяпер нас перапрафілявалі назад, працуем па стандартным графіку. Прыемна, што нас адзначылі. Узнагарода – гэта заслуга ўсяго аддзялення.

**Аддзел інфармацыі.**

# Адказнасць за крадзеж электраэнергіі




**Інтэрв'ю з намеснікам галоўнага інжынера філіяла «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга» Дзмітрыем Віктаравічам Цэгалкам.**

**– Якая работа па выяўленні фактаў безліковага спажывання электраэнергіі праводзіцца спецыялістамі філіяла «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга»?**

– У філіяле існуе спецыялізаваная брыгада па выяўленні і спыненні безліковага спажывання электраэнергіі. Штодня праводзіцца рэйдавая праца з мэтай выяўлення фактаў крадзяжу электраэнергіі як па горадзе Маладзечна, так і па ўсіх раёнах абслугоўвання філіяла (Маладзечанскім, Валожынскім, Вілейскім і Мядзельскім).

**– Да чаго прыводзіць незаконнае падключэнне да электрасеткі або крадзеж электраэнергіі?**

– У дачыненні да парушальнікаў складаюцца акты аб самавольным безліковым спажыванні электрычнай энергіі. Кожны такі выяўлены выпадак цягне за сабой пакрыццё шкоды за спажытую электраэнергію ў добраахвотным, а ў выпадку адмовы – у судовым парадку. Акрамя кампенсацыі шкоды па факце крадзяжу электраэнергіі, спажыўцы прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці і ў адпаведнасці з артыкулам 20.10 Адміністрацыйнага кодэкса плацяць штраф у памеры пяціразовай сумы нанесенай шкоды.

**– Што хочаце сказаць спажыўцам электраэнергіі?**

– Хацелася б звярнуць увагу грамадзян, што выкарыстанне розных метадаў безліковага спажывання электраэнергіі (ці проста крадзяжу) прыводзіць да перагрузак, кароткага замыкання, паломак у электрасетцы, узнікае небяспека паражэння чалавека электрычным токам. Усё гэта можа прывесці да вельмі трагічных наступстваў! Калі вы валодаеце якой-небудзь інфармацыяй аб крадзяжы электраэнергіі, то можна ананімна паведаміць пра гэта на адрас: вул. Драздовіча, 27 або па тэлефоне **8 (0176) 726-2-60** ці на E-mail: **moles@minskenergo.by.**



Дзмітры Цэгалка.

**Філіял «Маладзечанскія электрычныя сеткі» РУП «Мінскэнерга».**

УНП 100071593




Андрэй Эзерын.

# Чаму беларускія мужчыны паміраюць пасля 40 год

## Як гэта – згубіць сяброў, змяніць жыццё і пачаць дапамагаць іншым

**Што такое феномен звышсмяротнасці мужчын? І як яго спыніць? Гэтыя і многія іншыя пытанні задаў сабе Андрэй Эзерын, журналіст і камунікатыўны кансультант. Ужо 15 год ён шукае адказы і, здаецца, знаходзіць.**

Андрэй Эзерын вырас у Маладзечне, скончыў школу №8. У 1985 годзе скончыў факультэт журналістыкі БДУ.

15 гадоў таму Андрэй убачыў, як блізкія сябры і знаёмыя пачалі сыходзіць. Яны паміралі на піку: маладыя, паспяховыя, перспектыўныя. А крыху пазней ён даведаўся пра феномен звышсмяротнасці мужчын – да 65 гадоў на 1 мільён 681 тысячу жанчын у Беларусі прыходзіцца 696 тысяч мужчын, хоць першапачаткова хлопчыкаў нараджаецца больш.

### «Чаму мужчыны паміраюць так рана»

– Тады, 15 гадоў таму, я вёў зусім іншы лад жыцця. Выпіваў піва і іншы алкаголь з сябрамі, мала сачыў за сваім здароўем і важыў на 20 кілаграмаў больш, чым цяпер, – дзеліцца Андрэй. – Я перагледзеў сваё жыццё і зразумеў, што трэба нешта мяняць.

Спорт, правільнае харчаванне, адмова ад алкаголю і курэння – усё гэта ўвайшло ў жыццё мужчыны. Але гэта толькі малая частка велізарнай праблемы – высокай смяротнасці мужчын.

– Галоўнае пытанне, якое мы паднялі ў сваёй ініцыятыве: «Пра што мараць мужчыны пасля 40 гадоў?»

> **Калі ў мужчын у гэтым узросце няма мары і планаў на жыццё, гэта павышае рызыку смяротнасці.**

Мы павінны марыць гэтак жа інтэнсіўна, гэтак жа дынамічна, як у маладосці. Калі ты асеў і супакоіўся, у цябе звычайны набор: рыбалка, лецішча і канапа, – добрая ідэя. Але павінна быць яшчэ і цікавая ідэя, якая падштурхоўвае жыць далей.

### «Пра што ты марыш пасля 40?»

– Свет змяніўся, ён дае нам большыя магчымасці, больш часу для жыцця, – кажа Андрэй. – Таму старыя савецкія прынцыпы – да 20 гадоў сям'я, да 40 гадоў дарослыя дзеці і стабільная праца, а да 60 гадоў пенсія – ужо не актуальныя. Тварыць, ствараць, марыць можна і трэба пасля 70 гадоў.

Мая мара на бліжэйшыя 10 гадоў – быць запатрабаваным. Мяркую, мае равеснікі думаюць пра тое ж: як заставацца запатрабаваным і працягваць рабіць цікавыя праекты.

Зарадка, спорт і здаровае харчаванне – гэта толькі вяршыня айсберга. Цікавая праца, запатрабаванасць і далучанасць да сацыяльнага жыцця – вось напрамкі, над якімі я збіраюся працаваць у бліжэйшыя гады.

> **У той жа час людзям варта адэкватна ацэньваць свае магчымасці: трэба развівацца, асвойваць новыя тэхналогіі, перавучвацца – у гэтым не павінна быць страху. Усе гэтыя рэчы павінны выклікаць азарт, каб імкнуцца да лепшага.**

Асноўны слоган кампаніі – «Гэта ўсё яшчэ я» – прыйшоў з жыцця. Часта мужчынам кажуць: «Супакойся, які футбол» або «Якая музыка, табе не 17». Але гэта няправільна, бо галоўнае – жаданне.

– «Гэта ўсё яшчэ я» – наш адказ грамадству і нават самому сабе, – кажа Андрэй. – Няважна, колькі табе гадоў, чым ты займаешся і які ў цябе статус. Любое хобі табе па сілах, калі ведаеш, што ў душы «гэта ўсё яшчэ ты» – хлапчук, які калісьці будаваў планы, марыў і імкнуўся да поспеху.

Ініцыятыву рэалізавалі ў межах праекта БЕЛМЕД пры фінансавай падтрымцы European Union in Belarus і ў партнёрстве з Міністэрствам аховы здароўя Беларусі.

**Аляксандра САВІНІЧ, Мінск.**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Статус: вольны»



Фота film.ru.

**Расійская камедыйная меладрама рэжысёра Паўла Румінава з Данілам Казлоўскім і Лізаветай Баярскай у галоўных ролях. Прэм'ера адбылася ў 2016 годзе.**

### Сюжэт

Сюжэт фільма распавядае пра няпростыя адносіны дваіх былых закаханых **Мікіты** і **Афіны**. Герой Данілы Казлоўскага цяжка перажывае расставанне са сваёй дзяўчынай у выкананні Лізаветы Баярскай, якая знайшла для сябе больш перспектыўную партыю – паспяховага стаматолага. Мікіта, імкнучыся справіцца з гэтым, праходзіць праз розныя стадыі – нянавісць, спробы вярнуць былую каханую, пакуль не зразумее, што не трэба баяцца расставання і, магчыма, гэта – лепшае, што здарылася ў яго жыцці.

### Стварэнне

Гэта першы фільм, у якім Даніла Казлоўскі выступіў не толькі ў якасці акцёра, але і прадзюсара. Як распавёў акцёр у інтэрв'ю для праграмы «Індустрыі кіно»:

– Цікава правесці праект з моманту абмеркавання яго канцэпцыі за кубачкам кавы і да выхаду гатовага фільма ў пракат.

Сюжэт фільма мае пад сабой аўтабіяграфічную аснову. Вось што распавёў Павел Румінаў у інтэрв'ю часопісу «7 дзён»:

– Некалькі гадоў таму я цяжка перажываў расставанне з дзяўчынай і, каб не страціць розум, стаў запісваць свае адчуванні і думкі. Неяк прачытаў гэтыя нататкі Дане Казлоўскаму, з якім мы даўно сябруем. Ён настолькі ўразіўся маёй гісторыяй, што загарэўся ідэяй зняць па ёй кіно – маўляў, выдатны сцэнарый у нас ужо ёсць. Я даў сябе ўгаварыць, і ў выніку ў нас атрымаўся мужчынскі варыянт «Дзённіка Брыджэт Джонс» – героя кідае любімая дзяўчына, а ён, спрабуючы яе вярнуць, адкрывае ў сабе шмат новых талентаў.

### Цікавосткі

Да здымак фільма актыўна прыцягваліся валанцёры, якіх з лёгкасцю знаходзілі праз сацсеткі.

У музычным афармленні фільма выкарыстаны кампазіцыі гурта Sherlock Blonde, удзельнікамі якой з'яўляюцца Павел Румінаў і **Наталля Анісімава**.

Для акцёра **Уладзіміра Селязнёва** роля стаматолага стала першай вялікай роляй у кіно.

**Надзея Звенігародская**, якая сыграла маці героя Данілы Казлоўскага, на самай справе яго маці.

Спачатку фільм быў кароткаметражны, называўся «Суботні вечар у караоке» і складаўся з маналогу галоўнага героя Мікіты.

У 2017 годзе выйшла літоўская адаптацыя стужкі пад назвай «Вярнуць яе за 7 дзён» стала хітом. Фільм тры тыдні быў на першых месцах у нацыянальным рэйтынгу. Галоўную ролю выканаў знакаміты літоўскі комік **Юсцінас Янкявічус**.

**Цікава, што ў Беларусі не было прэм'еры фільма. Правы на распаўсюджванне кінастужкі купілі толькі ў Расіі, Украіне, Латвіі ды Эстоніі.**

**Глядзіце фільм «Статус: вольны» 1 жніўня ў 21:25 на тэлеканале «TV1000 Рускае кіно».**

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 3 АВГУСТА

**7.00, 15.50, 17.30, 21.05, 0.35** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад».
**7.30, 15.55, 17.25, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**8.30, 19.50** Т/с **«ИГРА. РЕВАНШ».**
**10.00** Мультфильмы.
**11.45** Х/ф **«ВРАТАРЬ МОЕЙ МЕЧТЫ».**
**13.50, 17.35** Т/с **«СРЕДИ КАННИБАЛОВ».**
**14.50** Т/с **«СКАЗКА О НОК ДУ».**
**16.10** Х/ф **«Я ШАГАЮ ПО МОСКВЕ».**
**19.15** «Суперлото».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«КВЕСТ».**
**22.40** Х/ф **«ОМЭН».**

### ВТОРНИК, 4 АВГУСТА

**7.00, 14.50, 21.10, 0.55** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.00** «Мульт-парад».
**7.30, 14.55, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**8.30, 19.15** Т/с **«ИГРА. РЕВАНШ».**
**9.30** «Как защитить легкие от Covid-19» СБ ТВ.
**10.30** Х/ф **«ГОРДОСТЬ И ПРЕДУБЕЖДЕНИЕ».**
**12.45, 17.40** Т/с **«СРЕДИ КАННИБАЛОВ».**
**13.45** Т/с **«СКАЗКА О НОК ДУ».**
**15.30** Кулинарная программа «Готовь как шеф!».
**16.00** Х/ф **«ДВОЕ В ГОРОДЕ».**
**17.35** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«КУРСК».**
**23.10** Х/ф **«ОМЭН-2: ДЭМИЕН».**

### СРЕДА, 5 АВГУСТА

**7.00, 15.15, 21.10, 2.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.25** «Мульт-парад».
**7.30, 15.20, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**8.25, 19.15** Т/с **«ИГРА. РЕВАНШ».**
**10.00** «Готовь как шеф».
**10.30** Х/ф **«КУРСК».**
**12.30, 17.45** Т/с **«СРЕДИ КАННИБАЛОВ».**
**14.10** Т/с **«СКАЗКА О НОК ДУ».**
**15.55** Х/ф **«ЧЕРЕПАШКИ НИНДЗЯ».**
**17.40** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ДВЕ КОРОЛЕВЫ».**
**23.15** Х/ф **«ДОРОГА ЯРОСТИ».**

### ЧЕТВЕРГ, 6 АВГУСТА

**7.00, 15.35, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.40** «Мульт-парад».
**7.30, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**8.30, 19.15** Т/с **«ИГРА. РЕВАНШ».**
**10.00** Д/ф.
**10.20** Х/ф **«ПРИЗРАК ОПЕРЫ».**
**12.45, 17.40** Т/с **«СРЕДИ КАННИБАЛОВ».**
**14.30** Т/с **«СКАЗКА О НОК ДУ».**
**15.50** Х/ф **«КТО ПОДСТАВИЛ КРОЛИК РОДЖЕРА».**
**17.25** «Фешн is my профешн».
**19.10** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«КОМЕДИАНТ».**
**23.15** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНАЯ ХВАТКА».**
**1.05** «Погода» + «Эрана» + Аэровидео.

### ПЯТНИЦА, 7 АВГУСТА

**7.00, 15.10, 21.10, 1.05** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.20** «Мульт-парад».
**7.30, 15.15, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗАТЕРЯННЫЕ В КОСМОСЕ».**
**8.20, 19.15** Т/с **«ИГРА. РЕВАНШ».**
**9.50** «Удачные советы» СБ ТВ.
**10.00** Х/ф **«КОМЕДИАНТ».**
**12.05, 18.10** Т/с **«СРЕДИ КАННИБАЛОВ».**
**14.05** «Советы нотариуса» СБ ТВ.
**16.40** Х/ф **«МУЖИКИ».**
**19.10** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ ПО СПАСЕНИЮ».**
**23.05** Х/ф **«ЛИГА СПРАВЕДЛИВОСТИ».**

### СУББОТА, 8 АВГУСТА

**7.00, 15.10, 21.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы.
**8.30, 17.15** «Приколы 13-й школы».
**8.35** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК АМФИБИЯ».**
**10.10** Х/ф **«СОБАЧЬЯ РАБОТА».**
**13.10** Х/ф **«ОПЕРАЦИЯ ПО СПАСЕНИЮ».**
**15.15** «Смотрим всей семьей». «Дамбо».
**17.20** «Как защитить легкие от Covid-19» СБ ТВ.
**18.25, 1.50** «Погода».
**18.30** «Герои комиксов на экране». «Ковбои против пришельцев».
**20.50** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my профешн».
**21.20** Х/ф **«ТРЕНЕР».**
**23.35** Х/ф **«ЛЕОН».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 9 АВГУСТА

**7.00, 14.15, 21.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.45, 15.50** «Приколы 13-й школы».
**8.50** «Готовь как шеф».
**9.10** Х/ф **«СОБАЧЬЯ РАБОТА».**
**12.00** Х/ф **«ТРЕНЕР».**
**14.20** «Смотрим всей семьей». «Темная лига справедливости».
**15.55** «Погода» + Эрана.
**16.00** «Детектив на экране». «Бледный конь».
**18.00** Т/с **«КАСЛ».**
**18.45** «Погода».
**18.50** Х/ф **«ПОЕЗДКА В АМЕРИКУ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«БОЛЬШАЯ ИГРА».**
**23.30** Х/ф **«ПЛЕЙБОЙ ПОД ПРИКРЫТИЕМ».**
**1.00** «Погода» + Гороскоп.

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 3 АВГУСТА

**6.30, 22.30** Мажорный лад.
**8.00** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА».**
**10.00** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ».**
**12.10** Рядом со звездой.
**14.00** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**15.30** Новости БЖД.
**15.45** Х/ф **«НЕАДЕКВАТНЫЕ ЛЮДИ».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.30** Майстэрства і фантазія.
**20.20** Х/ф **«ОТПЕТЫЙ МАЧО».**

### ВТОРНИК, 4 АВГУСТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30** Мнения и факты.
**8.30** Мая Радзіма.
**8.50** Фрагменты истории.
**10.00** Реликвия: сохраненные ценности.
**12.00** Х/ф **«М+Ж».**
**14.00** Х/ф **«МОЁ БОЛЬШОЕ ГРЕЧЕСКОЕ ЛЕТО».**
**15.40** Х/ф **«ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ».**
**17.15** «Будь с нами» молодежная программа в рамках открытого диалога.
**18.50** Афиша.
**19.30** Будьте здоровы.
**20.20** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ».**
**22.30** Мажорный лад.

### СРЕДА, 5 АВГУСТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15, 19.20** Гость в студии.
**10.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**
**13.00** Рядом со звездами.
**15.40** Х/ф **«ИРОНИЯ СУДЬБЫ. ПРОДОЛЖЕНИЕ».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**20.20** Будьте здоровы.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.30** Мажорный лад.

### ЧЕТВЕРГ, 6 АВГУСТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30, 18.00** Будьте здоровы.
**8.30** Майстэрства і фантазія.
**10.50** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**12.10** Х/ф **«ЗАВТРАК У ПАПЫ».**
**14.10** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРО».**
**16.00** Х/ф **«КОРСИКАНЕЦ».**
**18.50** Афиша.
**19.30** Живые голоса истории.
**20.20** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**22.20** Мажорный лад.

### ПЯТНИЦА, 7 АВГУСТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30** Будьте здоровы.
**8.30, 17.25** Живые голоса истории.
**9.00** «Будь с нами» молодежная программа в рамках открытого диалога.
**12.00** Х/ф **«БОЛЬШОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ».**
**13.30** Х/ф **«ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ В ДЖУНГЛИ».**
**15.35** Х/ф **«ИЗ 13 В 30».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.30** На вячоркі да Фядоркі.
**20.30** Реликвия: сохраненные ценности.
**21.00** Гость в студии.
**22.20** Мажорный лад.

### СУББОТА, 8 АВГУСТА

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.30, 22.20** Мажорный лад.
**8.30** Будьте здоровы.
**8.40** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**10.05** Х/ф **«ДА ЗДРАВСТВУЕТ ФРАНЦИЯ!».**
**12.10** Х/ф **«ВТОРАЯ ЖИЗНЬ УВЕ».**
**14.20** Х/ф **«БАРМЕН».**
**15.50** Новости БЖД.
**16.40** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.30** Рядом со звездой.
**20.30** Живые голоса истории.
**20.30** Музыкальная открытка.
**21.20** «Будь с нами» молодежная программа в рамках открытого диалога.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 9 АВГУСТА

**6.30** Х/ф **«ХОТТАБЫЧ».**
**8.20** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**10.25** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ».**
**12.40** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ».**
**14.50** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ».**
**16.50** Х/ф **«ОТПЕТЫЙ МАЧО».**
**18.20** Х/ф **«БАБУШКА ЛЁГКОГО ПОВЕДЕНИЯ».**
**20.55** Х/ф **«АМЕЛИ».**

## Беларусь 1

**6.15, 8.15, 9.15, 10.10, 12.20, 14.10, 15.20** Т/с **«ДОМИК НА СЧАСТЬЕ».**

**8.00, 9.00, 10.00, 12.00, 14.00, 15.00, 16.00, 18.00** Новости.

**16.10, 18.20** Т/с **«ТАНКИСТ».**

**19.55** «Выборы-2020».

**23.00** Х/ф **«ТЫ ТОЛЬКО БУДЬ СО МНОЮ РЯДОМ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.40** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.20, 19.35** Телебарометр.

**9.25** «Суперженa». Реалити-шоу.

**10.20** «До свидания». Реалити-шоу.

**11.05** «Четыре свадьбы». Реалити-шоу.

**12.25** «Погоня за вкусом». Кулинарное трэвел-шоу. 1-й выпуск.

**13.20** Х/ф **«БАР «ГАДКИЙ КОЙОТ».**

**15.00** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.40** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.25** Приключенческий экшн «Хан Соло: Звездные войны. Истории».

**20.10** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«МАТРИЦА ВРЕМЕНИ».**

**22.55** «Третий лишний». Реалити-шоу [СТ].

**23.55** «Муж напрокат». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.30** «Святыні Беларусі».

**8.00, 14.05, 20.20** Навіны культуры.

**8.20** «Гэты дзень».

**8.25** «Дзень рождения Леопольда», «Автомобиль кота Леопольда». Мультфільмы.

**8.45** «Мая Анфіса». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Пернік з макам.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.50** «Над Цісай». Мастацкі фільм [СТ].

**13.15** «Майстры і куміры». Кампазітар, народны артыст Беларусі Эдуард Ханок.

**14.30** «Тэатр у дэталях». Опера Вялікага тэатра Беларусі «Князь Ігар».

**14.55** А.Барадзін. «Князь Ігар». Опера Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**17.30** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**17.55** Канцэрт «Славянскі базар-2020».

**18.45** «Старыя-разбойнікі». Мастацкі фільм.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Фурцава» Шматсерыйны мастацкі фільм. 1-я – 4 с.

## ОНТ

**7.00** Х/ф **«БЕЛАРУСЬ. ВЗРОСЛЕНИЕ».**

**8.00, 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00, 23.00** «Наши новости. Выборы-2020».

**8.25** «Воскресная проповедь».

**8.40** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.00** Премьера ОНТ: «Народный повар».

**10.25** «Видели видео?».

**11.40** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**12.35** Премьера. «На дачу!» с Ларисой Гузеевой. Продолжение.

**13.25, 14.35** Т/с **«ТОНКИЙ ЛЁД».**

**16.30, 18.30** ОНТ представляет: «ОбъективНО».

**17.00** ОНТ представляет: «Моя Беларусь».

**17.10** ОНТ представляет: «Песня года Беларуси». Лучшее.

**19.00** ОНТ представляет: «Песня года Беларуси». Лучшее. Продолжение.

**21.00** ОНТ представляет: Ток-шоу «Выборы-2020».

**22.30, 23.25** Х/ф **«РИТА».**

## СТВ

**6.20** «Тайны Беларуси».

**7.30** «Добро пожаловаться».

**8.00, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30** «Выборы 2020».

**8.20** «Большой город».

**8.50, 10.50** Т/с **«КРАПОВЫЙ БЕРЕТ».**

**12.40, 13.50** Х/ф **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. АФГАНСКИЙ КАПКАН».**

**15.05, 16.55** Х/ф **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. СМЕРТЕЛЬНЫЙ УЛОВ».**

**17.35** Х/ф **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА. ЛОЖНАЯ ЦЕЛЬ».**

**22.00** Х/ф **«БЕЛЫЕ РОСЫ».**

**23.30** «Как устроен мир».

**1.55** «Невероятно интересные истории».

## Мир

**5.00** Мультфильмы.

**5.05** Х/ф **«ЛЮБИМЫЙ РАДЖА».**

**7.10** Х/ф **«САЛОН КРАСОТЫ».**

**8.50** «Наше кино. История большой любви».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15** Т/с **«ДУРНАЯ КРОВЬ».**

**1.25** Т/с **«ЛУЧШЕ НЕ БЫВАЕТ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.40** «50 рецептов первого».

**7.15** «Кто в доме хозяин?».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.55** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.25** «Первая передача».

**10.55** «Чудо техники».

**11.40** «Дачный ответ».

**12.40** «НашПотребНадзор».

**13.40** Истории спасения.

**14.30** Х/ф **«БАЛЬНОЕ ПЛАТЬЕ».**

**16.20** «Следствие вели…».

**19.45** Ты не поверишь!

**20.35** «Звезды сошлись».

**22.00** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ЭТИМ ЛЕТОМ И НАВСЕГДА».**

**10.10** «Устами младенца».

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.20, 14.00** Х/ф **«ЕГО ЛЮБОВЬ».**

**13.50, 16.50, 19.50, 23.00** Новости – Беларусь.

**14.50, 17.00, 21.20** Т/с **«ФАЛЬШИВАЯ НОТА».**

**23.10** «В людях».

**23.40** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.35** Реальные упыри. **8.10** Не/смотря ни на что. **10.05** Дюплекс. **11.35** Люди в чёрном. **13.15** Люди в чёрном 2. **14.40** Люди в чёрном 3. **16.30** Переговорщик. **19.00** Не пойман, не вор. **21.10** Репродукция. **23.10** Люси. **0.40** Погружение. **2.55** Неспящие в Сиэтле. **5.00** Улыбка Моны Лизы.

### TV1000 ACTION

**6.30, 15.20** Затерянный мир. **8.05** Халк. **10.25** Неудержимый. **12.00** Скалолаз. **13.50** Анаконда. **17.00** Игра Эндера. **19.00, 5.10** Обливион. **21.05** Железный кулак. **22.40** Лукас. **3.00** Химера.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.40** Кукушка. **8.35** Особенности национальной охоты. **10.10** Особенности национальной рыбалки. **12.00** Особенности национальной охоты в зимний период. **13.15** Тайна печати дракона. **15.25** Каникулы строгого режима. **17.25** Джунгли. **19.00** Трудности выживания. **20.30** Девушки бывают разные. **22.05** Жених. **23.50** Спасти Ленинград. **1.50** Привычка расставаться. **3.30** Любовь с ограничениями. **5.30** Позвоните Мышкину.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.30** «Рисуем сказки». **8.45** «Новый день». **9.15** «Погоня за вкусом». **10.15** Х/ф **«СЕРДЦЕ ДРАКОНА: БИТВА ЗА ОГНЕННОЕ СЕРДЦЕ». 12.15** Х/ф **«ДЫШИ ВО МГЛЕ». 14.15** Х/ф **«ОГРАБЛЕНИЕ В УРАГАН». 16.15** Х/ф **«ГОДЗИЛЛА». 19.00** Х/ф **«СМЕРЧ». 21.15** Х/ф **«ОТМЕЛЬ». 23.00** Х/ф **«ЦУНАМИ». 1.00** Х/ф **«АКУЛЫ В МИССИСИПИ». 2.15, 3.00, 3.45, 4.30, 5.15** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ КАК ЛЮБОВЬ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ГРОМОВЫ. ДОМ НАДЕЖДЫ». 13.00, 21.00** Т/с **«ПРО ЛЮБOFF». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«СЕДЬМОЕ НЕБО». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ОПЕРА. ХРОНИКИ УБОЙНОГО ОТДЕЛА. НОВАЯ ВЕРСИЯ». 5.00** Т/с **«ЛЮБОВЬ ПО ПРИКАЗУ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.40** Х/ф **«ТУПОЙ И ЕЩЕ ТУПЕЕ 2». 4.15** Х/ф **«МОШЕННИКИ». 6.05** Х/ф **«ИЗ НЕАПОЛЯ С ЛЮБОВЬЮ». 8.00** Х/ф **«СВАДЕБНЫЙ ПЕРЕПОЛОХ». 10.00** Х/ф **«СТАРАЯ ДОБРАЯ ОРГИЯ». 11.50** Х/ф **«ЧЕГО ХОЧЕТ ДЕВУШКА». 13.50** Х/ф **«ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ В ДЖУНГЛИ». 15.35** Х/ф **«ЗАМУЖ НА ДВА ДНЯ». 17.35** Х/ф **«ФАНФАН – ТЮЛЬПАН». 19.30** Х/ф **«РЭД 2». 21.40** Х/ф **«КРЫСИНЫЕ БЕГА». 23.45** Х/ф **«ЛЮБОВЬ С РИСКОМ ДЛЯ ЖИЗНИ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.45, 1.50, 2.55, 3.55, 4.55, 6.00** Т/с **«ЛЮТЕР». 7.00, 8.00, 21.55, 22.55** Т/с **«БАРС И ЛЯЛЬКА». 9.00, 10.10, 11.05, 12.00, 13.00, 23.50** Т/с **«КОМИССАР МЕГРЭ». 14.00, 15.00, 16.00, 16.55, 17.55, 18.55, 19.55, 20.55** Т/с **«БАЛАБОЛ».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ТРИ КОТА». **9.25** Шоу «ГАЛИЛЕО». **10.00** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **11.00** Шоу «САРАНХЭ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.45** Х/ф **«РИО». 14.30** Мультфильмы «ВОЛШЕБНАЯ КНИГА». **14.50** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИКИ». 16.50** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИКИ 2». 18.50** Х/ф **«ВСПОМНИТЬ ВСЁ». 21.00, 1.20** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **22.25** Travel-шоу «СЕЛАПОЛЕТЕЛА». **23.05** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **0.05** Т/с **«ГАЛЫГИН.RU». 2.35** «ПРОСТО КУХНЯ». **3.25** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Теннис. WTA. Палермо. Полуфиналы. **10.10, 19.45** Футбол. Чемпионат Беларуси. Обзор тура. **10.55** Баскетбол. 3х3. Национальная лига. Палова-арена. **13.55** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. 1/8 финала. Ответный матч.Бавария (Германия) – Челси (Англия). **15.55** Тренировочный день. **16.30** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. 1/8 финала. Ответный матч.Барселона (Испания) – Наполи (Италия). **18.30** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. **19.05** Пит-стоп. **19.35, 22.30** Спорт-центр. **20.30** Теннис. WTA. Палермо. Финал. **22.40** Смешанные единоборства. BFC 58.

### EUROSPORT

**0.00, 2.30, 6.00, 14.15, 15.00, 18.00, 21.00** Снукер. Чемпионат мира. Шеффилд. Второй раунд. **1.00** Автогонки. Формула Е-2019/20. Берлин. **2.00, 5.00** Велоспорт. «Тур Польши». 4-й этап. **4.00** Велоспорт. «Тур де Лейн». 2-й этап. **8.00** Велоспорт. Милан – Сан-Ремо-2020. **9.30** Автогонки. Формула Е-2019/20. Берлин. Обзор. **10.30** Олимпийские игры. Transform my meal. **11.30** Олимпийские игры. «Велобум в Африке». **12.30, 13.15** Автогонки. Суперкубок Porsche. Сильверстоун. **19.45** Автогонки. Формула Е-2019/20. Берлин. Интро. **20.00** Автогонки. Формула Е-2019/20. Берлин. Гонка.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Сравнительный тест. **6.30** Тайный покупатель. **6.45, 7.30, 17.35** Неближний Восток. **7.15, 8.10, 18.35** Аварийная ситуация. **7.55, 10.45, 13.30, 16.55, 19.10, 23.35, 1.25, 3.50** Итоговые новости. **8.45** Резьба по стали. **9.15** Тест с дядей Ваней. **9.35** Мотогараж. **10.05** Мото тест-драйв. **11.00** Проверка на дороге. **11.15** Вторичка. **11.35, 19.25, 22.45, 3.10** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **12.05, 19.55, 23.20, 3.35** Авто: вторые руки. **12.40, 20.10, 23.50, 4.05** Трасса А2. **13.45, 0.45** Испытание на прочность. **14.20, 1.10** Все включено. Эксклюзив. **14.35, 1.40** Тест на «Драйве». **15.35, 17.15, 22.30, 4.50** Эконом-тест. **15.55, 5.05** Возвращение легенды. **21.00** 9 злобных водителей. **21.35** Наезд! **21.45** Вечер с Пикуленко. **2.40** Сити тестер.

### EXPLORE

**6.00, 7.00, 7.55, 8.45** Речные чудовища. **9.35, 10.00, 23.45, 0.10, 0.30, 0.55** Нефритовая лихорадка. **10.25** Масштабные инженерные ошибки. **11.15, 21.20** Поисковая команда в Австралии. **12.00, 12.45, 13.35, 14.20, 15.05, 15.55, 16.40, 17.25, 18.15, 19.00, 19.50, 20.35** Австралийские золотоискатели. **22.05, 22.55** Австралийские охотники на лобстеров. **1.20, 2.05, 2.50, 3.35, 4.20** Деревенский дом. **5.10** Выживание в лесу.

### HISTORY

**6.10, 6.35, 5.15** Невероятные изобретения. **7.05, 7.55, 8.40, 12.55, 13.45, 14.30, 15.20, 16.05, 16.55, 17.40, 2.50, 3.40, 4.25** Музейные тайны. **9.30, 10.20** Взрывная Земля. **11.15, 12.05** Мифические существа. **18.30** Viasat History представляет: этот день в истории. **19.30** Даты, вошедшие в историю. **20.00** Древние суперстроения. **21.00** Шпионаж за монархами. **21.55** Частная жизнь коронованных особ. **22.45** Карты убийства. **23.35, 0.25** Могилы викингов. **1.15, 2.00** Мифы и чудовища.

### NATURE

**6.05, 6.30, 3.30, 4.00** Уличный ветеринар. **7.00, 17.40** Берег хищников. **7.55** Мир природы: морж – двухтонный клыкач. **8.45, 9.40** Дельфины – шпион в стае. **10.35, 11.30, 15.00, 18.35, 19.30** Дикая Латинская Америка. **12.25, 13.15, 14.10** Загадочная планета. **15.55, 16.50** Уэльс: дикая земля. **20.25** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **21.15** Земля больших кошек. **22.05, 22.50** Война за животных. **23.35** Невероятные встречи с животными. **0.20** Хищные питомцы. **1.10, 5.20** Мутации погоды. **1.55** Анатомия крупнейших животных. **2.45** Ветеринар из Йоркшира. **4.25, 4.50** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.50** Научные глупости. **6.25, 1.35, 5.10** Инстинкт выживания. **6.55** Самые лучшие суперкары. **7.45, 2.00, 2.45** Авто-SOS. **8.45, 9.35** Враждебная планета. **10.30, 11.20** Затерянные тайны библии с Альбертом Лином. **12.15** Затерянные тайны Кордовы. **13.05** Потерянная гробница Александра Великого. **13.55, 14.55** Деревянная кожа. **15.50, 22.20** Секунды до катастрофы. **16.45** Следующее мегаземлетрясение. **18.20** Чудеса инженерии. **19.15, 21.00** Суперсооружения: чудеса инженерии. **20.05** Инженерные идеи. **21.50** Зона строительства. **23.10** Суперсооружения Третьего рейха. **0.00, 0.45** Космос: Пространство и время. **3.35, 4.20** Секретные материалы древности. **5.35** Игры разума.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.05, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.35, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.55, 14.50, 19.00, 23.00, 3.10** Мир рыболова. **7.25, 15.35, 23.30** Вкусные рецепты рыболова. **7.55, 11.50, 16.05, 20.00, 0.00, 4.05** Андрей Старков и его команда. **8.25, 0.30, 4.35** Рыбалка на малых реках Удмуртии. **8.55, 12.50, 17.05, 1.00, 5.05** Рыбалка без границ. **9.25, 13.25, 1.35, 5.35** Россия заповедная. **11.25, 19.30, 3.40** Вкусные рецепты охотника. **12.25, 16.35, 20.30** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **15.15** Две на одного. Снаряжение. **17.35, 21.35** Донка против фидера. **21.00** На рыбалку с охотой. **2.55** Две на одного. Оружие.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.05, 14.15, 18.10, 22.00, 2.10** Домашняя экспертиза. **6.30, 10.35, 14.45, 18.40, 22.35, 2.40** Дачных дел мастер. **7.00, 11.05, 15.15, 19.10, 23.05, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.40, 15.50, 19.45, 23.35, 3.55** Как поживаете? **8.00, 12.10, 16.20, 20.15, 0.05, 4.20** Лучки-пучки. **8.15, 12.25, 16.35, 20.25, 0.25, 4.35** Про грибы. **8.35, 12.45, 16.55, 20.45, 0.40, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 13.00, 17.10, 21.00, 1.00, 5.05** У мангала. **9.20, 3.40** Траовед. **9.35, 13.30, 17.40, 21.35, 1.25, 5.35** ТОП-10. **14.00** Варенье. **1.55** Соусы.

# Была і такая вайна

## Успаміны Часлава Лявіцкага, удзельніка вераснёвай кампаніі 1939 года

*Працяг. Пачатак у №30.*

**Спіс вераснёвых смертнікаў Францішка Жылкі, надрукаваны ў №19 «Рэгіянальнай газеты», выклікаў водгукі чытачоў, якія знайшлі сваіх родных. Прапаную вам успаміны Часлава Лявіцкага, жыхара вёскі Кабыльнік, што на Мядзельшчыне.**

МЯДЗЕЛ

Часлаў Часлававіч, народжаны ў 1912 годзе, таксама служыў у гэтай дывізіі. Успаміны я запісаў у жніўні 1999 года.

### Варшава трымалася болей, чым уся Польшча

У вайну дзве нядзелі трымалася Варшава, болей, чым уся Польшча. Але мы палову дарогі дайшлі да Варшавы і каля Седліц нас забралі ў палон. Да Седліц дайшлі 14 ці 16 верасня і ўжо разабралі нашу дывізію. А мы яшчэ адзін дзень трымаліся. Было можа 16 ці 17 верасня. У сасонніку мы пахаваліся і раптам бачым, што нас акружылі над ракой. Немец ужо фішкі кідаў, што Польшча зліквідзіраваная, усё забрана і чаго гэта толькі наша крошка борыцца.

Але наш ксёндз ваенны капэлан зарганізаваў з разьбіткаў кумпанію і ўночы пайшлі нямецкія акопы разбіваць. Яшчэ мелі тады коней, на конях была артылерыя, амуніцыя. Таксама сказалі, што наша кавалерыя ўдарыць па немцах. І вось уначы капэлян закамандаваў: «Наперад!» Мы пайшлі ў атаку, але як толькі закрычалі «гура!», немцы пражэктары паўключалі, як лямпы ўсё роўна. І дзень зрабілі. А кавалерыя памылку зрабіла ды па нас яшчэ сцебанула. Мы тут і зламаліся. Аднак бачым, немец крыху цісніцца пачаў. Тады мы зноў рванулі наперад. Аселі па дарозе ў хутарках Сточкі і Марозы – гэта была мясцовасць вясковая каля Седліц. Колькі змаглі, ваявалі на гэтых хутарках. Завулічны быў бой. Тут немец на плоце вісіць, тут паляк вісіць. З-за вуглоў мы біліся. Пад раніцу і патронаў не было з амуніцыяй, бо ваявалі ўсю ноч. Усё роўна днём немец выступіў з гэтых хутаркоў, мы засталіся.



1939 год. Нямецкія салдаты ў Польшчы.

### За што немцы паважалі польскіх жаўнераў

На раніцу выпадкова сустрэўся з братам, які ехаў на машыне. Мой брат **Рышард Лявіцкі** быў паручнікам у польскай арміі. Раней Рышард настаўнічаў у польскай школе. А потым пайшоў ахвотнікам у армію. Сябра яго пайшоў маракам, а ён пайшоў на самалёты. Але перш, чым дапусціць на самалёты, абавязкова трэба было тры гады адбыць у артылерыі процілётчай. Гэта часць стаяла ў Парубанку, недалёка ад Вільні. І тут раптоўна ён пад'ехаў да мяне. Адразу пытаецца:

– Ці пад'еўшы?

– Ужо чацверты дзень не еўшы, усё ў адступленні, – кажу брату.

Тады Рышард павёў у машыну, а там бяры сухароў, хлеба, банак кансервы – колькі хочаш. Паелі мы там, і ён кажа:

– Сядай у машыну, паедзем. На машыне лепей.

Брат сам сядзеў за рулём, а яго шафёр ужо без ног ляжаў.

– Не, – адказваю. – Можа, як травой-лесам з акружэння праб'ёмся. А на машыне дзе ж ты праедзеш?

Брат адзін паехаў. Пасля вайны ён быў з'ехаў у Польшчу, жыў у Ольштыне. Цяпер яго няма, памёр. Жонка, сям'я асталіся... А мы з сябрам, як Рышард паехаў, пайшлі да ўзлеску. Там нас ужо няшмат засталося. А тут раптам немцаў дзве ці тры брыгады з аўтаматамі. Вывелі нас з узлеску, аж ужо там тысячы чалавек стаяць на полі з нашай дывізіі. Нас адразу ў турму пасадзілі за тое, што да апошняга трымаліся. Аднак, трэба сказаць, польскіх ваяк паважалі немцы. Потым Гітлер нават аркуш прыслаў вахману чытаць, дзе напісаў: «Мне польскага жаўнера і маё ўзбраенне – на ўвесь свет пайду і заваюю». Вахману [ахоўніку] было загадана па картачках даць польскаму палоннаму цукру трохі, хлеба, мяса. А ў хатах вахман акрамя таго, ці замкнёная рама жалезная, праверыў, ці чыста спіцё.

### У французаў – па пяць пярсцёнкаў на руках і шакаладу поўныя пляцакі

Французаў прыгнаў пазней. Разам з намі працавалі ў гаспадара на полі. Гітлер жа даў па французскай граніцы адразу пасля Польшчы. А ў Францыі была пастаўлена ля нямецкай граніцы лінія Магеноты, што на 25 гадоў была забяспечана рознай прадукцыяй, амуніцыяй. Лінія Магеноты ў зямлі так была пабудавана, што зверху ні машыны, ні артылерыя, ні самалёты нічога не разбівалі. Гітлер даў, нічога не разбіў і абышоў на Бэльгію. Такая слабенькая дзяржава Бэльгія была, як і Польшча. Адзенне такое ж у вайскоўцаў, як і ў палякаў. Толькі кутасікі на фуражках, матузок такі чорненькі прычэплены. За суткі разбіў Бэльгію і прывёз на працу бэльгійцаў.

Зайшоў праз Бэльгію ў Францыю і прывёз французаў – па пяць пярсцёнкаў на руках і шакаладу поўныя пляцакі. А рускія як прыйшлі, то цяжка ім было. Не паважалі іх немцы, што не ваявалі яны. Бачыш, за суткі прапусцілі куды. Кідалі «кацюшы». Ішлі ў палон. Калі іх прывялі да нас, як мы былі ў лагеры, то рускія сказалі: «О, хоць голад у Расеі, але нешта ўкрадзеш, прынясеш, жменьку атрымаеш за трудадзень. Свабода! А тут гума і гума. Каб ведалі, не пайшлі б у палон, ваявалі».

### Хоць і пад'еўшы, але палонны

– **А дзе вы працавалі ў Германіі?**

– Адразу працаваў на гаспадара ля Гумбінена ў Прусіі – горад быў за 60 кіламетраў ад граніцы польскай і літоўскай. Гаспадар Кумкэйн, хутар Прэйхшад зваўся. На хутары прарабіў да 41-га года. Я пры каровах быў. Устаць мусіў у ночы і з немкай даіць карову. А пакуль іх спарадкаваць, то ужо і вечар. Усё па гадзінніку ў немцаў было распісана: калі абед, дык абед – роўна гадзіна. Напрыклад, на поле паедзем браць снапы ці канюшыну. Да абеду застаецца дзесяць хвілін, усё роўна каня адварочваем, едзем на поле, ускідваем дзесяць снапоў ці пару пластоў. Прыйшоў час – кідай усё! І так вечарам да шасці гадзін.

А ў 41-м сабраліся дамоў. Хоць у гаспадара былі пад'еўшы, але палонныя. Ты ж паганы. Паехаў, напрыклад, на кані па вугаль альбо малако павёз. Прыехаў – адразу пытаюцца: «Нацыі якой?» Паляк узлез немцу на дарогу – ужо табе гумы. Ты ж бяспраўны. А тут другі, хто паўцякаў, лісты прыслалі, што граніца Германіі і Беларусі слабая, не акапаная і што смела можна ісці. Упяцёх уцякалі. Разам з намі немец уцякаў.

– **Ён быў сын гаспадара?**

– Не. Наняты быў. Так як парабак. Гэты немец любіў з палоннымі сябраваць. Малады хлопец часта далучаўся да нас на полі. А з палоннымі ў Германіі сябраваць было нельга. Бо немцы лічылі заразным замежнага чалавека. Дык яму раз далі 37 марак штрафу, а пасля тры месяцы адседзеў. У Германіі нават дзяўчат каралі, каторыя з намі захадзілі. Немку тады на шэсць месяцаў садзяць і галаву абстрыгуць, што паганая ўжо, з палонным жыла. А палонных, калі з немкай заняўся, вешалі. Устроены быў электрычны слуп, уздзвіжка жалезная... Нас збіраюць тады пад канвоем вахманы і прыводзяць паказаць, як паляка будуць вешаць за немку.

**Вадзім ПРАЎРАЦКІ.**

*Працяг будзе.*

● КАЛЯНДАР

31 ЛІПЕНЯ

**1802.** На Наваградчыне, цяпер Карэліцкі раён, нарадзіўся **Ігнат Дамейка**, навуковец, рэфарматар, геолаг, мінеролаг, мемуарыст. Нацыянальны герой Чылі, займае важнае месца ў навуцы і культуры Беларусі, Літвы, Польшчы. У 2002 годзе Нацбанк Беларусі выпусціў памятную манету ў гонар Дамейкі.



1 ЖНІЎНЯ

**1812.** Напалеон Банапарт выдаў дэкрэт аб стварэнні войска аднаўленага ВКЛ.

**1914.** Пачатак Першай сусветнай вайны.

**1920.** Абвешчана аб стварэнні БССР.

**1923.** У Вішневе на Валожыншчыне нарадзіўся будучы прэзідэнт Ізраіля, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру **Шымон Перэс**. Памёр у 2016 годзе.

2 ЖНІЎНЯ

**1840.** Паводле ўказа расійскага імператара спынена дзеянне Статута ВКЛ на тэрыторыі Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў.

3 ЖНІЎНЯ

**1940.** Літва далучаная да СССР.

4 ЖНІЎНЯ

**1945.** Заснаваны філіі Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Вязынцы і Ляўках.

**1924.** Узброены савецкі атрад у ноч на 4 жніўня напаў на гарадскую турму ў Стоўбцах. Галоўнай мэтай нападу было вызваленне дзеячаў камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і Польшчы. Наступствамі стала ўзмацненне абароны дзяржаўных межаў у Польскай рэспубліцы, а менавіта стварэнне Корпуса аховы памежжа.

5 ЖНІЎНЯ

1772. Адбыўся першы падзел Рэчы Паспалітай паміж Аўстра-Венгрыяй, Прусіяй і Расіяй – падпісанне адпаведнага трактату дзяржавамі ў Санкт-Пецярбургу.

6 ЖНІЎНЯ

**1965.** Нарадзіўся **Алесь Пушкін**, беларускі жывапісец-нонканфарміст, тэатральны мастак, перформер, арт-куратар, сябра Беларускага Саюза мастакоў. У партфоліа мастака і работы ў касцёле Панны Марыі ў Вішневе на Валожыншчыне, у касцёле архангела Міхаіла ў Міхалішках Астравецкага раёна.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# «У Беларусі лезлі са скуры, каб зарабіць»

## Сям'я Палонскіх расказала, чаму яны з'ехалі з Беларусі, а цяпер удзельнічаюць у акцыях салідарнасці ў Польшчы

**Былая маладзечанка Кацярына Палонская расказала пра тое, як іх сям'я апынулася ў Польшчы і як палітычныя падзеі сённяшняй Беларусі адгукаюцца ў Познані.**

### Чаму з'ехалі ў Польшчу

Для пераезду не было нейкай канкрэтнай прычыны. Гэта рашэнне з мужам **Сашам** выношвалі цягам некалькіх апошніх год. Да 2015 сям'я жыла някепска, Аляксандр працаваў на латвійскае прадпрыемства. Атрымліваў добры заробак, меў перспектыву кар'ернага росту.

Але раптам дзяржава прыняла чарговае недарэчнае рашэнне, якое тычыцца еўрапейскіх арганізацый і прадпрыемстваў, каб зноў займець з іх грошы. Фірма зачынілася. У пошуках заробку муж пачаў мяняць працу адну за адной.

– Тут мы зразумелі, што наш запал, маладосць, амбіцыйнасць нікому ў гэтай краіне не трэба, – дзеліцца Кацярына. – Табе хлусяць працадаўцы, а дзяржава ўсё глыбей забіраецца ў тваю кішэню. Але не дае нічога ўзамен. Мы стараліся, лезлі са скуры, каб зарабіць. Але грошай хапала толькі на асноўныя патрэбы: ежа, камуналка, садок для дзіцяці, бытавыя дробязі. Зусім крыху заставалася, каб выйсці адпачыць. Не гаворачы пра тое, каб выехаць.

### «Дзяржава можа не толькі забіраць»

Муж паехаў у Польшчу на тры месяцы. Гэтага часу хапіла, каб зразумець, што ў суседняй краіне будзе лепш. Палонскія жывуць у Познані 10 месяцаў – Кацця, Саша і іх сын Ваня.

– Тут мы адчулі свабоду, – расказвае былая маладзечанка. – Тое, чаго так не хапала. Сталі дружнай і шчаслівай сям'ёй. Усе выхадныя праводзім разам і вельмі цэнім гэты час.

І Каця, і Саша працуюць на складзе вядомага інтэрнэт-магазіна пяць дзён па восем гадзін. Кажуць, праца нескладаная.

– Нам падабаецца палітыка Польшчы, яна накіраваная на сем'і, – тлумачыць Кацярына. – Тут для нас шмат забаў. Вельмі развіты актыўны адпачынак. У кожным раёне бясплатныя дагледжаныя дзіцячыя і спартыўныя пляцоўкі. Пасля пераезду я даведалася, што дзяржава можа не толькі забіраць, але і аддаваць. І для гэтага неабавязкова быць грамадзянінам Польшчы.

На дзяцей да 18 год дзяржава штомесяц выдаткоўвае 500 злотых, гэта каля 130 долараў. У жніўні на зборы ў школу выдаюць яшчэ 300 злотых, ці 80 долараў. Раз на год вяртаюць 1160 злотых на адно дзіця ад падаткаў за мінулы год, гэта каля 300 долараў. Тым, хто з-за пандэміі атрымаў зарплату меншую за сярэднюю, выплацілі яшчэ па 2080 злотых, гэта каля 550 долараў. Тут жанчына ўбачыла, куды ідуць яе падаткі і як усё працуе.

### Чаму пайшлі на акцыі салідарнасці

За прэзідэнцкай выбарчай кампаніяй Палонскія сочаць ад самага пачатку. Падпісаныя на блогераў, тэлеграм-каналы. Таму заўсёды ў курсе падзей у Беларусі.

– На жаль, прэзідэнт Беларусі нас не здзівіў, а вельмі хацелася, – мяркуе Каця. – Таму што народ заслугоўвае сумленныя выбары.

Былыя маладзечанцы сачылі за акцыямі салідарнасці на Радзіме і ў іншых краінах. Адчувалі адначасова гонар і боль за беларусаў.

У Познані беларусы арганізавалі дзве акцыі. Пра першую не даведаліся своечасова, а на другую не маглі не пайсці. Расказалі пра акцыю сябрам з Беларусі, яны таксама далучыліся.

### Сцяг узяла з сабой

Палонскія намалявалі плакаты. Каця ўзяла бел-чырвона-белы сцяг. Хаця падчас пераезду брала няшмат рэчаў, але беларускі сцяг узяла з сабой.

– Калі прыйшла на плошчу і пачула родную мову, не магла паверыць у гэта, як жа я сумавала па мове! – кажа Кацярына. – Мы спявалі песні, скандзіравалі лозунгі. Гэта выдатна атрымлівалася ў нашага шасцігадовага сына. Ён быў уражаны і натхнёны. Мы расказваем яму пра падзеі, што адбываюцца ў Беларусі. Так што ён ведае, куды ідзём і чаго дамагаемся. Быць сярод аднадумцаў, адчуваць сілу, дух і адзінства народа – гэта неперадавальнае адчуванне, якое натхняе.




Кацярына, Аляксандр і Ваня Палонскія на акцыі ў Познані.

Акцыя ў Познані была санкцыянiраваная. Арганізатары дамовіліся з уладамі загадзя. За акцыяй назірала і ахоўвала паліцыя. З-за пандэміі трэба было трымацца дыстанцыі.

Родныя ў Беларусі не чакалі, што і да Познані дойдзе гэта хваля. Каця ўпэўненая, што яны ганарацца смеласцю сваякоў. Некаторыя беларусы хочуць перамен, але не вераць у іх, лічаць жанчына.

– Калі бачу на відэа і фота людзей у ланцугах салідарнасці, перажываю гэтыя моманты разам з імі, – расказвае Палонская. – Я плачу ад несправядлівасці, ганаруся сваякамі. Была б у Беларусі, абавязкова далучылася б да ўсіх акцый. І заклікала б знаёмых і сяброў. Толькі разам можам штосьці змяніць.




Мітынг у Познані.

Фота забяспечанае Кацярынай ПАЛОНСКАЙ.

### Што пра беларускія выбары думаюць у Польшчы

Як патлумачыла Кацярына, гэта залежыць ад нацыянальнасці людзей. Беларусы, якія там жывуць, вераць у перамены. Яны вельмі рады, што народ прачнуўся і перастаў маўчаць. Яны ведаюць па сабе пра цяжкі лёс Беларусі. Таму і з'ехалі са сваёй краіны.

Палякі спачуваюць беларусам. Часам па радыё бываюць навіны, у якіх высмейваюць прэзідэнта Беларусі.

Большасць украінцаў да таго, як пазнаёміліся з Кацяй, былі ўпэўненыя, што ў Беларусі ўсё выдатна, што Лукашэнка ўсё вырашае, а іх сям'я апынулася ў Польшчы выпадкова.

– Няважна, дзе ты жывеш сёння і што адбываецца ў тваім жыцці, – падсумоўвае Кацярына Палонская. – Калі ты нарадзіўся беларусам, то застанешся ім назаўсёды. У нас усё абавязкова атрымаецца! Верым! Можам! Пераможам!

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

# «Нас спрабуюць запалохаць». Хлопца са Смаргоншчыны судзілі за чаргу ля крамы «Сымбаль Бай»

**Аляксандра Паплаўскага затрымалі ля крамы symbal.by 23 чэрвеня супрацоўнікі АМАПа. Разам з ім узялі яшчэ дзевяць чалавек. Тады людзі стаялі ля крамы ў чарзе, каб набыць тавары, таму што яе збіраліся зачыніць.**

Аляксандр Паплаўскі вучыўся на праграміста, цяпер не працуе. Ён родам з Вішнева, што на Смаргоншчыне. У Мінску 23 чэрвеня быў каля крамы, каб купіць тавар з нацыянальнай беларускай сімволікай.

Мужчына ўзгадвае, што людзей з чаргі затрымлівалі два разы. У першы раз супрацоўнікі АМАПа затрымалі чатырох чалавек, а ў другі ўзялі Аляксандра і іншых.

– Ніякіх лозунгаў не было, нічога такога не было, – дзеліцца суразмоўца.

Паплаўскага закінулі ў аўтазак. Унутры казалі ўсім замаўчаць.

– У аўтазаку быў чалавек, які хацеў высветліць, што адбываецца. Але яго пасадзілі на падлогу, ударылі па твары.

У Савецкім РУУС трымалі каля чатырох гадзін. Людзі да апошняга моманту не ведалі, які пратакол на іх складуць міліцыянеры.

– Папрасілі распісацца. У аддзеле міліцыі было ўсё зразумела, маўляў, усе робяць сваю справу. Ім загадалі – яны робяць. Такая абстаноўка, што ўсе ўсё разумеюць, чаму гэта робіцца.

Пасля апоўначы, калі падпісалі пратаколы, іх адпусцілі.

Аляксандр даведаўся толькі за некалькі дзён, што людзей, якіх затрымалі, збіраюцца судзіць. Судовыя разборы прайшлі 23 ліпеня, праз месяц пасля затрымання. Некаторым павесткі прыйшлі па пошце, некаторым званілі. Аляксандру павестка прыйшла 22 ліпеня.

Справу Аляксандра разбіралі ў судзе Савецкага раёна. Там жа судзілі пяць чалавек з чаргі да крамы. Яшчэ адну пяцёрку затрыманых судзілі ў іншым судзе Мінска.

Артыкулы, якія, на погляд супрацоўнікаў АМАПа, парушылі людзі – 23.34 і 23.4. Гэта артыкулы за несанкцыяніраванае масавае мерапрыемства і супраціўленне службовым асобам.

Аляксандр здымаў сваё затрыманне на камеру, але нікому не далі магчымасці дадаць відэа з месца падзей у судовую справу.

– Падчас пасяджэння хадайнічаў, каб разглядзелі відэазапіс з маім затрыманнем. Суддзя **Воўк** адхіліў па прычыне, што гэта відэа не прайшло экспертызу. Спытаў, чаму гэты запіс не дадалі ў справу раней. Наколькі мне вядома, у судах відэа даюць глядзець без экспертызы.

Па справе сведкамі былі два супрацоўнікі міліцыі – **Ігар Цярпіцкі** і **Раман Пятровіч**. Яны праходзілі сведкамі таксама і па справах іншых затрыманых ля крамы. Сцвярджалі, што затрыманыя скандзіравалі лозунгі «Стоп таракан», «Сыходзь».

– Я пра гэты момант не сказаў на судзе, але атрымліваецца, што гэтыя два чалавекі – Цярпіцкі і Пятровіч – усіх людзей тады затрымалі?

Чаргу ля «Сымбаль Бай» запісвалі ў жывым эфіры супрацоўнікі крамы. Яны знялі момант сваркі – кіроўца наехаў на людзей у чарзе. Потым афіцыйны прадстаўнік мінскай міліцыі **Наталля Ганусевіч** дасць каментар, што з-за гэтага інцыдэнту і прыехаў аўтазак з АМАПам.



Аляксандр Паплаўскі на сустрэчы выбаршчыкаў у Маладзечне 21 ліпеня.

Аляксандр лічыць, што паказанні сведак моцна адрозніваліся.

– Я спытаўся ў іх, што рабіў падчас затрымання. Адзін сказаў, што я ўцякаў. А другі кажа, што стаяў на месцы.

Аляксандр удакладніў, ці прадстаўляліся супрацоўнікі і тлумачылі прычыну затрымання. Адзін са сведак сказаў, што прадстаўляліся і тлумачылі, калі да яго падышлі. Іншы сведка сказаў, што зрабілі гэта толькі пасля затрымання.

– У другога сведкі запытаўся, я стаяў альбо ўцякаў. Суддзя спыніў мяне і сказаў, што гэта не мае ніякага дачынення да справы.

Аляксандру далі штраф – чатыры базавыя велічыні. Дзве з іх – за ўдзел у масавым мерапрыемстве, дзве – за супраціўленне.

– Цалкам адназначнае меркаванне аб гэтай сітуацыі. Тым, што цяпер адбываецца на фоне выбараў, грамадства цікавіцца. Грамадства разумее, што адбываецца бязладдзе на ўсіх франтах. Грамадства хоча выказаць сваю нязгоду. Нас спрабуюць запалохваць, затрымліваць усіх запар. Нам пасылаюць сігнал, каб мы сядзелі дома і ніхто нікуды не выходзіў.

– **А вы самі баіцеся?**

– Канешне, не. Я не баюся. Самае страшнае, што могуць зрабіць, – даць суткі. Але гэта не так страшна, як тое, што можа адбыцца ў нашай краіне. Калі замоўкнем, то нас чакаюць рэчы несувымерна страшнейшыя. Суткі – гэта абсалютна не страшна, калі ёсць такая падтрымка. У Лідзе фельчара звольнілі, а людзі сабралі яму некалькі тысяч долараў. Можна сказаць, што нашы людзі становяцца маленькімі героямі, разумеюць і падтрымліваюць.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

## На семярых раварыстаў склалі пратаколы за ўдзел у несанкцыяніраваным мерапрыемстве

**14 ліпеня ў смаргонскім тэлеграм-чаце людзі абмяркоўвалі магчымасць пакатацца на роварах у горадзе. А некалькі дзён таму на іх склалі пратаколы па адміністрацыйным артыкуле 23.34. Цяпер сем чалавек чакаюць суда.**

«РГ» пагутарыла з **Аляксандрам Паплаўскім** і **Алінай**, якіх на гэтым тыдні запрасілі ў Смаргонскі РАУС, а потым склалі пратаколы за ўдзел у несанкцыяніраваным масавым мерапрыемстве.

### «Кажу ім: то надзявайце кайданкі, затрымлівайце!»

Аліна працуе ў дзяржаўнай установе. 14 ліпеня яна была на лецішчы, у яе адпачынак. У той дзень жанчына пабачыла ў тэлеграм-чаце, што смаргонцы збіраюцца зрабіць велапрабег. Аліна тлумачыць, што ўсё роўна збіралася па справах у горад, таму і вырашыла туды прыехаць.

– Выйшла з крамы, паела, нікога яшчэ не было. Побач са мной сеў мужчына, пачаў здымаць плошчу на камеру. Ён здымаў і мяне таксама. А што калі я не хацела, каб мяне здымалі?

Потым пад'ехалі некалькі раварыстаў. Аліна падышла да іх, пацікавілася, што адбываецца. Жанчына кажа, што яны там і пазнаёміліся, вырашылі разам пакатацца.

– Машына ДАІ ўвесь час ехала за намі. Усё мірна, без лозунгаў. Проста ехалі па горадзе. У мяне былі свае справы, потым я з'ехала.

Праз пару дзён, 16 ліпеня, Аліне патэлефанавалі і запрасілі ў РАУС.

– Спыталася, а навошта тэлефануюць мне. Адказалі, што прыходзіце да мяне ў кватэру і не знайшлі. Сказалі, я павінна прыйсці ў РАУС. А ў мяне свае справы, адпачынак, нікуды, адказваю, не паеду. Канешне, разумела, няма чаго супраціўляцца.

Аліна дала адрас, каб супрацоўнікі пад'ехалі да яе высветліць усе абставіны. Жанчына вельмі здзівілася, калі міліцыянеры прыехалі амаль праз 10 хвілін.

– Толькі паспела пераадзецца, – успамінае жанчына.

Міліцыянеры папрасілі прайсці яе ў машыну, каб адвезці ў РАУС. Калі жанчына пацікавілася, навошта ехаць у аддзел, адказалі, што яна з'яўлялася ўдзельнікам несанкцыяніраванага масавага мерапрыемства і праходзіць па адміністрацыйнай справе.

– Кажу ім: то надзявайце кайданкі, затрымлівайце! Ужо суседзі выйшлі, пачалі размаўляць з міліцыянерамі. Хтосьці сказаў маладому лейтэнанту, маўляў, табе ж яшчэ працаваць, што ты робіш!

У РАУС трымалі некалькі гадзін, апыталі: калі купіла ровар, з якой мэтай купіла, ці ўключалі музыку, якія лозунгі выкрыквалі. Пасля адпусцілі.

– Прайшоў час, думала, што ўсё скончылася. Але пазаўчора зноў выклікалі ў міліцыю. Мне ў пратаколе напісалі, што прыняла актыўны ўдзел у несанкцыяніраваным мерапрыемстве! Я ў шоку! – абураецца суразмоўца.

Аліна кажа, што ў графе сведак нават нікога не напісалі. Яна спрабавала абскарджваць гэты пратакол у міліцыі. Там жа сказалі, што зафіксавалі яе на ўсіх відэакамерах Смаргоні. У міліцыі Аліне далі паглядзець усе перапіскі ў тэлеграм-чатах, паказалі здымак, на якім ёсць і яна.

– Я не думала, што забаронена выкладаць у інтэрнэт фота раварыстаў. А гэты артыкул 23.34 – 30 базавых ці арышт! Мы ўсе цяпер чакаем суд.

Аліна ўспамінае, што ў некаторых людзей забралі мабільныя тэлефоны. У мужчыны быў звычайны, кнопачны – такі не бралі. У Аліны тэлефона з сабой не было.

Жанчына заходзіла некалькі дзён таму на працу. Там ёй сказалі, што ліст з міліцыі ўжо прыйшоў.

– Не было суда, можа, там не знойдуць ніякага злачынства, а паперка ўжо прыйшла на працу. Як гэта?

### Праз два дні ля парку стаяў аўтазак, патрулявалі амапаўцы

Аляксандр Паплаўскі распавёў «РГ», што сапраўды 14 ліпеня людзі збіраліся на велапрабег у Смаргоні.

– Сабраліся разам правесці час. А праз некалькі дзён усіх затрымалі, прывялі ў РАУС. Там склалі пратакол, апыталі.

Аляксандр таксама ўспамінае, што 14 ліпеня машына ДАІ суправаджала раварыстаў, але ніякіх заўваг ад супрацоўнікаў міліцыі не было.

Паплаўскі распавёў, што 16 ліпеня супрацоўнікі смаргонскай міліцыі затрымалі раварыстаў, калі тыя каталіся па горадзе. У той дзень парк патрулявалі супрацоўнікі праваахоўных органаў, а таксама ля месца стаяў аўтазак. Раварыстаў суправадзілі ў аддзел міліцыі, правялі гутарку і адпусцілі без складання пратаколаў.

22 ліпеня Аляксандр атрымаў ліст ад міліцыі поштай, але прыйшоў туды толькі 24 ліпеня, таму што яго судзілі ў Мінску за чаргу ля symbal.by. Хлопец падзяліўся з карэспандэнтам пасля паходу ў міліцыю, што на яго склалі пратакол па ч. 1 арт. 23.34. Ён падпісаў яго са сваімі заўвагамі. У графах пацярпелых і сведак ніякай інфармацыі ў пратаколе няма.

Цяпер усе сямёра чакаюць суда. Яны не ведаюць, калі той адбудзецца, але разважаюць, што бліжэй да выбараў.

**Настасся УТКІНА.**

# Новыя затрыманні, абвінавачанні і Як праходзіць выбарчая кампанія


Фота штаба Віктара Бабарыкі.

Марыя Калеснікава, Святлана Ціханоўская і Вераніка Цапкала.


Фота tut.by.

Андрэй Дзмітрыеў.


Фота tut.by.

Ганна Канапацкая.


Фота РБК.

Аляксандр Лукашэнка.


Фота euroradio.fm.

Сяргей Чэрачэнь.

**Да выбараў прэзідэнта Беларусі застаецца тыдзень. «РГ» распавядае, што адбылося за апошнія дні ў выбарчай кампаніі.**

## Тысячныя мітынгі, ад'езд дзяцей

**Святлана Ціханоўская** ў сярэдзіне ліпеня аб'ядналася са штабамі **Віктара Бабарыкі** і **Валера Цапкалы**. Бабарыку і Цапкалу знялі з гонкі яшчэ 14 ліпеня, таму тры штабы прынялі рашэнне аб'яднацца.

Больш за тыдзень у Беларусі праходзяць санкцыяніраваныя мітынгі аб'яднаных штабоў. Разам з Ціханоўскай у турнэ па беларускіх гарадах ездзяць **Вераніка Цапкала** і прадстаўніца штабу Бабарыкі **Марыя Калеснікава**. Яны наведалі 11 гарадоў: Дзяржынск, Мінск, Глыбокае, Наваполацк, Віцебск, Бабруйск, Жлобін, Рэчыцу, Оршу, Магілёў. Па інфармацыі праваабарончай арганізацыі «Вясна», на гэтыя мітынгі схадзіла больш за 25 тысяч чалавек.

Чакаецца, што ў бліжэйшы тыдзень яны паедуць у Гродзенскую і Мінскую вобласці. 31 ліпеня мітынгі аб'яднаных штабоў пройдуць у Смаргоні і Маладзечне ў другой палове дня.

Ціханоўская паведаміла, што вывезла дзяцей у адну з краін Еўрасаюза з-за небяспекі іх знаходжання ў Беларусі. Гэтак жа зрабіла і Вераніка Цапкала. Яе муж, Валер Цапкала, выехаў у Расію разам з двума сынамі.

## Новыя абвінавачанні Віктара Бабарыкі і затрыманні ля КГБ

24 ліпеня прэс-служба Генеральнай пракуратуры паведаміла, што Віктару Бабарыку прад'явілі новае абвінавачанне. Пракуратура вывучыла сабраную інфармацыю і вырашыла перакваліфікаваць абвінавачанне.

Бабарыку не будуць абвінавачваць па арт. 431 Крымінальнага кодэкса, яго перакваліфікавалі на ч. 3 арт. 430 (Атрыманне хабару). Па новым абвінавачанні экс-кандыдату пагражае да 15 год турмы.

Раней Бабарыку абвінавачвалі па **ч. 2 арт. 235** (Легалізацыя сродкаў, атрыманых злачынным шляхам, учыненыя паўторна, або службовай асобай з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў, альбо ў асабліва буйным памеры), **ч. 2 арт. 243** (Ухіленне ад выплаты падаткаў, што пацягнула шкоду ў асабліва буйным памеры) і **ч. 2 арт. 431** (Дача хабару паўторна або ў буйным памеры) Крымінальнага кодэкса Беларусі. У СІЗА цяпер знаходзіцца і сын Віктара **Эдуард**. Яго абвінавачваюць па **ч. 2 арт. 243** (Ухіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры).

Для «ўдакладнення абставін злачынных дзеянняў» следства накіравала запыты аб аказанні прававой дапамогі ў кампетэнтныя ўстановы Вялікабрытаніі, Віргінскіх (Брытанскіх) астравоў, Кіпра, Латвіі, Расіі, ЗША, Турцыі і Эстоніі.

Марыя Калеснікава прапанавала беларусам падаць заяву на меры стрымання Віктара Бабарыкі. Цяпер Бабарыка знаходзіцца ў СІЗА КГБ. Адвакаты настойваюць, што былы кандыдат у прэзідэнты можна знаходзіцца па паручальніцтве пад дамашнім арыштам і мець магчымасць размаўляць са СМІ.

28 ліпеня некалькі дзясяткаў людзей прыйшлі да будынка КГБ з заявамі. Іх затрымалі ўжо ў самім будынку, некаторых амапаўцы забіралі на вуліцы. Усіх даставілі ў аддзел, але пратаколы не складалі.

**Прэвентыўна ля КГБ былі затрыманыя журналісты беларускіх і замежных выданняў.**

# апошнія выступленні на ТБ.

### Кандыдаты выступілі ў апошні раз на ТБ

28 ліпеня кандыдаты ў прэзідэнты выступілі ў апошні раз па тэлебачанні. Ад выступлення адмовіўся толькі кандыдат Лукашэнка.

**Сяргей Чэрачэнь засяродзіўся ў выступленні на эканамічным блоку сваёй прэзідэнцкай праграмы.**

Ён адзначыў, што за дзесяць год у беларускай эканоміцы нічога не змянілася, усё больш адстае ад суседзяў.

– У 2010 годзе нам публічна абяцалі рост сярэдняй зарплаты за пяць гадоў да 1000 долараў. Цяпер зарплата ў Беларусі такая ж, як і 10 гадоў таму, – 500 долараў. Але нават гэта сярэдняя зарплата, якая для многіх застаецца недасяжнай, ніжэйшая, чым мінімальны заробак у суседняй Літве, які там складае прыкладна 550 еўра, а сярэдні заробак – 1380 еўра. Ён перавышае сярэднюю ў Беларусі больш чым у тры разы.

Чэрачэнь выказаў нязгоду з палітыкай падтрымкі неэфектыўных дзяржпрадпрыемстваў і прывілеяваным становішчам некаторых прыватных кампаній, у той час як асноўная частка прыватнага бізнесу рэгулярна сутыкаецца з перашкодамі, неплацяжамі і з цяжкасцю адстойвае свае правы.

Ён прапанаваў аб'яднацца бізнесам і стварыць асацыяцыю.

**Андрэй Дзмітрыеў** заклікаў выбаршчыкаў да адзінства. Ён адзначыў, што дзеючы кіраўнік краіны не паважае беларусаў, называе небаракамі. Дзмітрыеў сказаў, што беларусы маюць права абраць новага прэзідэнта.

**Кандыдат паабяцаў правесці цягам года новыя выбары, у якіх могуць удзельнічаць кандыдаты, якіх не дапусцілі сёлета: Сяргей Ціханоўскі, Віктар Бабарыка, Валер Цапкала.**

На думку Дзмітрыева, выбары не адзінае, што трэба зрабіць для краіны і для людзей. Адзначыў, у час падрыхтоўкі да новых выбараў неабходна працягваць працу, каб у краіне быў парадак. Таму яго штаб распрацаваў план першых дзесяці крокаў. Сярод іх: стварэнне пераходнага ўрада, новай Канстытуцыі, удасканаленне пенсійнай сістэмы і перагляд пенсійнага ўзросту, скарачэнне дзяржапарату, зняцце ўсіх абмежаванняў з прыватнага бізнесу і іншае.

Дзмітрыеў заклікаў выбаршчыкаў прыходзіць 9 жніўня на ўчасткі. Таксама кандыдат падтрымаў ініцыятыву аб'яднаных штабоў – насіць белы бранзалет. Ідэю з белымі бранзалетамі прапанавала Вераніка Цапкала. Белы бранзалет прапануюць надзяваць усім, хто прагне перамен у Беларусі.

Падчас выступлення перад выбаршчыкамі Святлана Ціханоўская заявіла, што выбары 9 жніўня не будуць свабоднымі і сумленнымі, але заклікала ўсіх прыйсці менавіта ў гэты дзень і пакінуць голас за яе. У выступленні яна распавяла пра Віктара Бабарыку, Валера Цапкалу.

– Вас палохаюць, што калі вы не выберыце цяперашнюю ўладу, то тут будзе майдан. На самай справе ўсё не так. Супраць усіх гэтых мірных людзей – галоўнакамандуючы, у якога ёсць сіла і зброя.

**„Мы клічам на выбары, а ўлада кліча на майдан. Мы кажам, што большасць беларусаў хоча жыць у вольнай і багатай краіне, а ўлада пагражае нам майданам, – заявіла Ціханоўская.**

Кандыдат адзначыла, што галоўная каштоўнасць – гэта незалежнасць. Таксама распавяла пра тое, што яе штаб ведае, што рабіць з эканомікай, каб павялічыць пенсіі. Выступленне завяршыла расказам, якой можа стаць Беларусь пасля 9 жніўня: у ёй прэзідэнты змяняюцца, у інжынераў і рабочых добры заробак, моладзь не баіцца прымусовага размеркавання, якога няма, беспрацоўныя не абкладаюцца падаткам, у настаўнікаў дастойная зарплата, міліцыю і войска людзі паважаюць. Але гэта здарыцца пры адной умове – калі людзі 9 жніўня прагаласуюць за Ціханоўскую.

**Ганна Канапацкая заявіла, што краіне патрэбны прэзідэнт-рэфарматар, і такім прэзідэнтам можна стаць толькі яна.**

Кандыдат пералічыла прыроду і месцазнаходжанне Беларусі, яе эканамічны і працоўны патэнцыял. Усё гэта дазволіць зрабіць так, каб людзі маглі жыць, а не выжываць, як гэта цяпер адбываецца ў большасці рэгіёнаў краіны, дадала кандыдат.

Яна заклікала не верыць тым, хто «абяцае светлую будучыню ўжо заўтра», бо «шлях перамен патрабуе часу, згуртаванасці і аддачы кожнага». Яна прывяла ў прыклад Польшчу.

– Я не з'яўляюся тэхнічным кандыдатам, кандыдатам-спойлерам, я свядома іду ва ўладу, – сказала Канапацкая, нагадала пра свой досвед дзяржаўнай працы на дэпутацкай пасадзе. Кандыдат таксама запэўніла, што мае канкрэтную праграму дзеяннаў па стварэнні ў Беларусі прававой дзяржавы.

Канапацкая заявіла, што ў першыя месяцы прэзідэнцтва правядзе народны сход, у якім прымуць удзел «усе, у каго ёсць канкрэтныя ідэі, як пабудаваць Беларусь для людзей». А за час свайго прэзідэнцкага тэрміну створыць усе ўмовы для пераходу ад аўтарытарнага рэжыму да дэмакратыі. Яна перакананая, што Беларусь павінна стаць парламенцка-прэзідэнцкай рэспублікай, а прэзідэнт абірацца на сем гадоў. Канапацкая паабяцала стварыць новую нацыянальна-дэмакратычную партыю, якая аб'яднае ўсіх, хто бачыць Беларусь еўрапейскай краінай, вярнуць дзяржаўны статус гербу Пагоня і бел-чырвона-беламу сцягу.

### Што далей?

4 жніўня пачынаецца датэрміновае галасаванне. 8 жніўня – дзень цішыні. 9 жніўня – асноўны дзень выбараў. 10 жніўня Цэнтрвыбаркам павінны абвясціць вынікі выбараў і новага прэзідэнта Беларусі.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Як можна абараніць свае правы на выбарах

**Платформа «Сумленныя людзі» падрыхтавала рэкамендацыі.**

### Як паведаміць пра парушэнні падчас выбарчай кампаніі

Ва ўсіх выпадках парушэння выбарчага заканадаўства вы можаце падаваць заяву ў раённую пракуратуру для прыцягнення да адказнасці службовых асоб, што парушылі заканадаўства.

**Любы факт парушэння выбарчага заканадаўства з'яўляецца падставай, каб скласці пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні пракуратурай.**

Для гэтага падайце інфармацыю аб парушэнні ў заяве. Ад рукі пастаўце дату і подпіс. Падайце заяву ў пракуратуру. Копію заявы просіць даслаць платформе «Сумленныя людзі».

### Як могуць працаваць назіральнікі

**Які тэрмін паўнамоцтваў назіральніка?**

З даты акрэдытацыі да дня ўстанаўлення вынікаў падліку галасоў.

**Калі я назіральнік на ўчастку не па месцы рэгістрацыі, як у дзень выбараў прагаласаваць?**

**Можна ад'ехаць на свой участак, каб аддаць свой голас. Пры гэтым вельмі рэкамендуецца пакінуць на ўчастку іншага назіральніка, каб не перарываць працэс назірання.**



Фота masheka.by.

**Ці можна назіральніку агітаваць? Ці можна насіць адзенне з сімволікай кандыдатаў?**

Назіральнік не мае права праводзіць любую агітацыю, нават за ўдзел у выбарах. Бо статус назіральніка вы набываеце з моманту акрэдытацыі і да дня ўстанаўлення вынікаў выбараў, то агітаваць на працягу ўсяго гэтага перыяду нельга.

Адпаведна адзенне з сімволікай пэўнага кандыдата можа быць расцэненае як агітацыя. Публікацыя пастоў у сацыяльных сетках – таксама, таму гэтага назіральніку рабіць нельга.

Больш інфармацыі можна знайсці на платформе па спасылцы: https://honestpeople.by/

**Паводле honestpeople.by.**

# Дырэктар мінскага «Дынама» даў паказанні ў судзе

**Працягваюцца разборы ў Маскоўскім судзе Мінска наконт дамоўнага матча «Дынама-Маладзечна» супраць «Магілёва». На мінулым тыдні паказанні даваў дырэктар мінскага «Дынама» Дзмітры Баскаў.**

Дамоўны матч паміж маладзечанскім «Дынама» і «Магілёвам» прайшоў у лістападзе мінулага года. Цяпер на лаве падсудных знаходзяцца чатыры экс-гульцы «Дынама»: **Мікіта Усціненка**, **Аляксандр Сырэй**, **Аляксей Іваноў** і **Сяргей Шэлег**.

## Баскаў: зразумеў, калі ўбачыў лік

21 ліпеня ў судзе павінны былі выступіць апошнія сведкі, якія праходзяць па справе. Але самыя чаканыя ў аўторак госці – генеральны дырэктар мінскіх «зуброў» Дзмітры Баскаў і начальнік «Дынама-Маладзечна» **Дзмітры Мельнік** – не даехалі.

Дзмітры Баскаў знаходзіўся ў службовай камандзіроўцы

Нарэшце, пасяджэнне стартавала, але Баскаў у судзе так і не з'явіўся. Як аказалася, ён знаходзіцца ў службовай камандзіроўцы, таму хадайнічаў пра тое, каб яго паказанні, дадзеныя на папярэднім следстве, зачытаў суддзя.

Як стала вядома з паказанняў функцыянера, пра тое, што матч паміж «Дынама-Маладзечна» і «Магілёвам» насіць дамоўны характар, ён зразумеў, калі ўбачыў лік.

– Трансляцыю не глядзеў, але потым вывучыў статыстыку, – распавядаў Баскаў на папярэднім следстве. – Каманда выйгравала 5:1, а потым прайграла 5:6. Падобнае змяненне ліку, як мінімум, дзіўнае. Чатыры шайбы былі закінутыя ў трэцім перыядзе. Звярнуў увагу і на дзіўную замену варатароў.

Баскаў патлумачыў, што ўжо на наступную раніцу заняўся высвятленнем абставін паядынку, але спачатку звярнуўся да кіраўніцтва Нацыянальнага алімпійскага камітэта (НАК). Кіраўніком НАК з'яўляецца **Аляксандр Лукашэнка**, а першым віцэ-прэзідэнтам камітэта – **Віктар Лукашэнка**.

– Гутарыў з кіраўніцтвам Нацыянальнага алімпійскага камітэта. Выказаў свае здагадкі наконт характару паядынку. Мне было сказана, што такія дзеянні не павінны заставацца беспакаранымі. Было вырашана, што расследаваннем пачнуць займацца праваахоўныя органы. Дырэктару клуба паведаміў, што матч дакладна насіў дамоўны характар.

Па словах Баскава, ён запрасіў да сябе трэнераў «Дынама-Маладзечна» і прапанаваў ім прызнацца ў зробленым. Але тыя запэўнілі, што не ведалі аб дамоўным характары матча. Яны распавялі, што ў клубе ўжо праведзены сход, гульцам было прапанавана пакаяцца. Аднак ніхто з хакеістаў не прызнаўся.

– Я запрасіў да сябе гульцоў, якія гулялі ў Маладзечне, – працягнуў Баскаў. – **Феактыстаў**, напрыклад, сказаў, што гуляў у поўную сілу і не ўдзельнічаў у гэтым. А **Талапіла** прызнаўся, што да паядынку чуў дзіўныя размовы, па ходзе гульні назіраў нешта падазронае, пасля чаго папрасіў замены – нібыта з-за траўмы.

Пасля размовы з хакеістамі Баскаў не размаўляў ні з кім. Ён сказаў, што ведаў пра расследаванне з боку праваахоўных органаў.

Суддзя **Машкетаў** абвясціў перапынак, а далей паказанні далі




Баскаў не прысутнічаў на судзе, таму што знаходзіўся за межамі Беларусі.

начальнік аддзела спорту ФХБ **Вольга Дворнік**, заслуханыя паказанні намесніка галоўнага трэнера «Дынама-Маладзечна» **Ірэка Хафізава**.

## Мельнік не прыехаў у суд, таму што яму стала дрэнна

Наступным павінны былі выслухаць **Дзмітрыя Мельніка**. Аднак ён не браў тэлефон. Пасля высветлілася, што ён дрэнна сябе адчувае, таму не мог прыехаць у суд, а папярэдзіць пра гэта не паспеў. Суддзя зачытаў пісьмовыя сведчанні з папярэдняга следства.

– Перад матчам абстаноўка ў камандзе была трохі напружаная. Хакеісты былі незадаволеныя затрымкамі заробкаў, але яны ніколі не казалі, што можа быць выпадак дамоўнага матча, – распавядаў раней Мельнік. – Больш за тое, калі ў калектыў прыходзілі Сырэй і Шэлег, я патлумачыў ім, як і іншым хакеістам, што могуць быць затрымкі, але ў канцы сезона ўсё выплачваецца. Яны адказалі, што ўсё разумеюць.

Што тычыцца непасрэдна дамоўнага матча, то, па словах Мельніка, ён зразумеў, што на лёдзе адбываецца нешта дзіўнае, ужо ў першым перыядзе «Дынама-Маладзечна» гуляла не ў поўную сілу.

– Памятаю, што **Амбражэйчык** і Талапіла па ходзе матча адмовіліся гуляць. Я падышоў да Талапілы і ўбачыў, што ён плача. Чаму – ці з-за таго, што матч насіў дамоўны характар, або з іншай нагоды – я не ведаю, – працягнуў начальнік каманды. – У трэцім перыядзе на лёдзе рабілася нешта недарэчнае. Па ходзе гульнявога адрэзка я спусціўся да лаўкі запасных і ўбачыў, што там робіцца сапраўдны балаган, гульцы абвінавачвалі адзін аднаго ў здачы матча. Хто і на каго канкрэтна гэта казаў, не магу ўспомніць, тым больш гульцы сядзелі да мяне спінамі. У канцы трэцяга перыяду заўзятары скандзіравалі нам «Ганьба».

Як распавёў Мельнік, калі заўзятары вырашылі сустрэцца з гульцамі, ён іх нават прасіў абысціся без рукапрыкладства. Прыхільнікі «Дынама-Маладзечна» пагадзіліся, але з хакеістамі гаварылі на павышаных тонах.

– Я выйшаў з пакоя, дзе праходзіла сустрэча, але праз дзверы чуў крыкі. І памятаю, як Шэлег кляўся, што матч чысты, што ніхто нічога не здаваў. Я таксама хачу адзначыць, што на мае просьбы ўсё-такі распавесці праўду, гульцы адказвалі адмовай – ніхто не хацеў прызнавацца.

Начальнік каманды «Дынама-Маладзечна» таксама распавёў і аб ужо вядомых фактах: як праходзіла сустрэча з Дзмітрыем Баскавым, як ім абвясцілі пра тое, што матчам заняліся праваахоўныя органы. А таксама выказаў упэўненасць, што без «дапамогі» чацвёркі, прадстаўленай на лаве падсудных, арганізаваць несумленны матч не атрымалася б.

## Што будзе далей у справе маладзечанскіх хакеістаў?

Пасяджэнне ў аўторак стала апошнім, на якім заслухоўваліся паказанні тых, хто праходзіў па справе сведак. За час следства былі апытаныя практычна ўсе гульцы «Дынама-Маладзечна», члены трэнерскага штаба, дырэктар клуба, а таксама кіраўнік «зуброў».

21 ліпеня суддзя зачытаў характарыстыкі хакеістаў, якія праходзяць па справе (не толькі тых, што знаходзяцца на лаве падсудных), адзначыў наяўнасць у многіх з іх адміністрацыйных пакаранняў за парушэнне правілаў дарожнага руху.

На гэтым чарговае пасяджэнне было завершана. 28 ліпеня прайшлі судовыя спрэчкі. «РГ» паведаміць пра далейшыя падзеі ў судзе праз тыдзень.

**Настасся УТКІНА**
**па матэрыялах pressball.by і by.tribuna.com.**

## У «Астравец» прыйшлі чатыры новыя футбалісты

Абаронцы **Аляксандр Козел** і **Уладзіслаў Зубрыцкі** будуць гуляць у складзе «Астраўца». Козел правёў першы круг гэтага сезона ў «Івацэвічах», а Зубрыцкі выступаў у дублі гродзенскага «Нёмана».

Таксама да каманды далучыліся **Аляксей Бялевіч** (два апошнія гады гуляў за «Андэрдог» з Чысці) і **Аляксандр Буцько** (пачынаў сезон у зэльвенскай «Чайцы»).

**Настасся УТКІНА.**

## Праходзіць ратацыя ў маладзечанскім «Дынама»

Абаронцы **Раман Аляксееў** і **Ілля Летаў** пакінулі «Дынама-Маладзечна».

З Аляксеевым, які раней выступаў за «Сахалін» у Азіяцкай лізе, кантракт скасаваны па пагадненні бакоў. Летаў працягне кар'еру на правах арэнды ў жлобінскім «Металургу».

Форварды мінскага «Дынама» **Мікалай Сыты**, **Ілля Казьянін** і **Арцём Аносаў** прыбылі ў размяшчэнне «Дынама-Маладзечна» і прынялі ўдзел у трэніроўцы.

Сыты ў мінулым сезоне адыграў 47 матчаў за «Дынама-Маладзечна» ў экстралізе, набраў 7 (3 + 4) балаў. У плэй-оф правёў чатыры гульні. Казьянін закінуў адну шайбу ў трох матчах «рэгуляркі» КХЛ. У экстралізе здабыў 7 (5 + 2) балаў у 14 сустрэчах за «Магілёў» і «Дынама-Маладзечна».

У актыве Аносава 2 (0 + 2) ачкі ў 12 матчах у КХЛ, 6 (1 + 5) балаў у 20 паядынках у экстралізе за «Юнацтва». У Кубку прэзідэнта правёў тры гульні.

Беларускі форвард **Дзмітры Амбражэйчык** працягнуў кантракт з «Дынама-Маладзечна».

Тэрмін пагаднення разлічаны на адзін год.

У мінулым рэгулярным сезоне хакеіст набраў 43 (18 + 25) ачкі ў 57 гульнях за «Дынама-Маладзечна», дадаў 10 (6 + 4) балаў у 12 сустрэчах плэй-оф. Таксама правёў дзве гульні за зборную Беларусі, дзе не адзначыўся выніковымі дзеяннямі.

За кар'еру ў экстралізе 25-гадовы нападаючы набраў 134 (53 + 81) балы ў 181 гульні «рэгулярцы» і 26 (12 + 14) балаў у 49 сустрэчах плэй-оф.

Склад «Дынама-Маладзечна» папоўніў дасведчаны расійскі нападаючы **Павел Капыцін**.

Раней форвард абараняў колеры клубаў ВХЛ «Разань», «Буран», «Цвер», «Сарыарка» (Караганда), «Дызель».

Мінулы сезон Капыцін правёў у казахстанскім «Рэйнджэрсе», дзе ў 60 матчах набраў 52 (19 + 33) балы і стаў лепшым бамбардзірам каманды.

**Паводле прэс-службы «Дынама-Мінск», belarushockey.by, hockey.by.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. У парламенце штата Паўднёвай Аўстраліі нельга вымаўляць стандартны ветлівы выраз, таму што дэпутаты не павінны нікога … .
3. Сістэма ўмоўных знакаў, сігналаў, якая выкарыстоўваецца для запісу або шыфраванай перадачы сакрэтных звестак.
4. Гэта слова цяпер кажуць, калі характарызуюць чалавека недастаткова разумнага. А ў Старажытнай Грэцыі так называлі грамадзяніна поліса, які не цікавіўся і не ўдзельнічаў у палітычным жыцці.
6. Грошы, якія выдаюцца наперад у лік зарплаты.
7. Хімічны элемент, празрысты бясколерны газ, які ўваходзіць у склад паветра і неабходны для дыхання, гарэння.
8. Пра яе верш Уладзіміра Някляева з такімі радкамі: «Ля самай скроні свету Слізне і прападзе. Ні водгуку, ні следу Нідзе, нідзе, нідзе».
11. Орган у птушак, насякомых і некаторых млекакормячых, які служыць для лятання.
14. У 1856 годзе каля Гібралтара знайшлі бочачку, у якой быў ліст. Яго змест выклікаў у свеце сенсацыю, хаця ліст спазніўся прыкладна на 400 год. Хто аўтар ліста?
16. Адмоўная велічыня.
17. Надпіс на паштовым адпраўленні, у якім указваецца месцазнаходжанне атрымальніка.
19. Пераноснае значэнне – асоба, служачы, які выконвае сваю работу фармальна, раўнадушна, без жывога інтарэсу, строга па інструкцыі.
20. Узор, схема чаго-небудзь, звычайна ў паменшаным выглядзе, мадэль.
22. Частка тэксту або асобныя словы, літары ці іншыя знакі, напісаныя або надрукаваныя ў адну лінію.
23. Часовае карыстанне нерухомай маёмасцю на дагаворных асновах.
24. Раён Віцебскай вобласці, дзе нарадзіўся Рыгор Барадулін.
25. Найлепшы вынік, дасягнуты ў спорце, у працы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Тэкст, які чытаюць вернікі, калі звяртаюцца да Бога ці святых.
2. У 1976 годзе ў Швецыі ўпершыню за 40 гадоў ва ўрад не трапілі прадстаўнікі сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі. Прычынай лічаць сатырычны артыкул Астрыд Ліндгрэн пра тое, што яе … склаў 102%.
5. Расціранне цела з мэтай паляпшэння кровазвароту, абмену рэчываў у тканках.
9. Група людзей, аб'яднаных паходжаннем, мовай, культурай.
10. Творчы метад у літаратуры і мастацтве, які ставіць мэтай праўдзівае адлюстраванне аб'ектыўнай рэчаіснасці ў яе тыповых рысах.
12. Вышэйшая ступень задавальнення, адчування прыемнага.
13. У Перу маладыя людзі атрымліваюць пашпарт толькі пасля таго, як паўдзельнічаюць у іх.
15. Цела, якое мае ўласцівасць прыцягваць да сябе жалезныя, стальныя або адштурхоўваць некаторыя іншыя прадметы.
18. У штаце Нью-Мексіка ёсць закон, паводле якога два кандыдаты з аднолькавай колькасцю галасоў на адзін пост могуць разыграць, хто з іх пераможца. У 1998 годзе дзякуючы гэтай гульні выбралі мэра.
21. Знак прыпынку, які ўплывае на інтанацыю.
23. Сукупнасць уласцівасцей пэўнага чалавека, якія складаюць яго індывідуальнасць.
26. У сярэднявечны святары ваявалі разам з варамі. Але іх зброя павінна была быць такой, каб не з'яўлялася яна.
27. Магчымасць здзяйсняць учынкі ў адпаведнасці са сваім светапоглядам.

## Адказы на крыжаванку з №30

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Ясны. 3. Турбіна. 4. Яўка. 6. Ліберыя. 8. Човен. 12. Таз. 13. Доказ. 14. Ватыкан. 15. Ячмень. 16. Танк. 18. Тарыф. 19. Дробязь. 20. Яблыня. 21. Даліна. 22. Памост. 23. Праўда.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Ячэня. 2. Чысціня. 5. Ісландыя. 7. Дагавор. 8. Чытач. 9. Прэтэнзія. 10. Пракол. 11. Труна. 17. Чары. 19. Даклад. 24. Рабства. 25. Хмара.

## ГАРАСКОП НА 31 ЛІПЕНЯ – 6 ЖНІЎНЯ

**АВЕН.** Час, калі вельмі важным будуць вашы рашэнні і рашучасць дзейнічаць. Абараняйце тое, у чым бачыце перспектыву. А калі нападкаюць сумненні, не саромейцеся прасіць дапамогу ў блізкіх людзей. У гэты перыяд магчымае запамінальнае спатканне.

**ЦЯЛЕЦ.** У вас ёсць рэальны шанец уладкаваць сваё жыццё. Ад вашых дзеянняў залежыць, якім будуць вашы бліжэйшыя гады. Магчыма, вы знойдзеце свой лёс. Галоўнае, заставайцеся шчырымі з сабой.

**БЛІЗНЯТЫ.** Цяпер можна планаваць недалёкія падарожжы або адпачынак. Набярыцеся сіл, таму што наперадзе чакае вельмі адказны перыяд. Прывядзіце ў парадак усе справы, каб быць да яго гатовым.

**РАК.** Давядзецца шмат размаўляць з людзьмі, якія вагаюцца, знаходзяцца ў нявызначаным стане. Важна адшукаць словы падтрымкі або тлумачэння для кожнага. Гэта важна не толькі для іх і вас, нават для нечага большага.

**ЛЕЎ.** У гэты перыяд пастарайцеся быць цярплівымі з тымі, хто не падзяляе вашы думкі. Імкніцеся даводзіць сваю пазіцыю аргументавана і з павагай. Гэта найлепшы сродак дамагчыся таго, каб вас пачулі.

**ДЗЕВА.** Вам давядзецца расстаўляць прыярытэты, прычым вельмі аператыўна. Вызначыце, якая справа актуальная менавіта цяпер, на што варта скіроўваць усю ўвагу і сілу ў гэты час. Усе высілкі вельмі хутка прынясуць добрыя плады.

**ШАЛІ.** Удача спрыяе вам і нясе ў рукі тое, чаго жадаеце. Але не варта спакушаць лёс і даваць нагоду адварочвацца ад вас. Таму імкніцеся быць шчырымі і сумленнымі. Усё добрае, што вы зробіце, вернецца вам удвая.

**СКАРПІЁН.** Паспяховасць перыяду залежыць ад вашага майстэрства весці перамовы і дамаўляцца з самымі рознымі людзьмі. Ад таго, наколькі якасна вы будзеце даносіць сваю думку, залежыць тое, ці будзе жаданае ўвасабляцца ў рэальнасць.

**СТРАЛЕЦ.** Пастарайцеся больш часу ўдзяліць здароўю. Таму пазбягайце нервовых сітуацый і абставін. Пастарайцеся берагчы сябе. А лепшы спосаб берагчы сябе – рабіць толькі добрыя ўчынкі.

**КАЗЯРОГ.** Усё тайнае становіцца яўным, памятайце пра гэта. У гэты час неабходная ваша стойкасць і сіла волі, якія дапамогуць адстаяць меркаванне і пазіцыю. Зоркі прадказваюць вам хуткі ўздым, калі ў гэты час будзеце захоўваць раўнавагу і сумленнасць.

**ВАДАЛЕЙ.** Адкрыйце сваё сэрца і не бойцеся сказаць самыя важныя словы. Тое, што вы хацелі б сказаць, але чамусьці не маглі. Магчыма, гэта апошні шанец змяніць сітуацыю на сваю карысць.

**РЫБЫ.** Выдатны час уладкаваць тую сферу жыцця, якая вас непакоіць больш за ўсё. Памятайце, што каб нешта атрымаць спачатку, трэба штосьці аддаць.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 6 | | | | | 2 | 4 | |
| | | 4 | 5 | | | 8 | | |
| 1 | | 7 | | | | | 9 | |
| 6 | | | | 9 | 3 | | | |
| 2 | | | 1 | | 7 | 3 | | |
| | 3 | 1 | 6 | | 2 | | | |
| | 5 | | 3 | | | 4 | | |
| | | | | | 5 | 9 | | 8 |
| 8 | | | | | 9 | | 7 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by




● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Ці сталі вы піць больш алкаголю з-за каронавіруса?



**Ягор Ярмоленка, студэнт, Вілейка:**
– Я прытрымліваюся здаровага ладу жыцця і таму ўвогуле не п'ю алкаголь. Каронавірус, на мой погляд, наконт гэтага пытання ніяк не паўплываў.



**Наталля Жукава, псіхатэрапеўт, Маладзечна:**
– Не, але я працую з залежнымі. Вось кліенты сталі больш піць, гэта ёсць.



**Ганна Клімашэўская, інжынер-інструктар, Маладзечна:**
– Не стала. Стала лепш сачыць за здароўем і рацыёнам.



**Ігар Барысевіч, інжынер-механік, Смаргонь:**
– Не, не стаў піць больш алкаголю.



**Валерыя Рошчына, дырэктар адукацыйнага цэнтра, Маладзечна:**
– Не, не стала.



**Святлана Асмольская, інжынер, Ашмяны:**
– Я рэдка п'ю алкаголь, і яго ўжыванне ніяк з каронавірусам не звязваю.



**Яўген Янушкевіч, прадавец, Маладзечна:**
– Не стаў, у апошні час увогуле не ўжываю алкаголь.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

## У Маладзечне выступіў гурт PARTIZANY



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Вакаліст гурта PARTIZANY Андрэй Кажан падчас канцэрта, які прайшоў на Вуліцы стрыт-фуда 28 ліпеня.

## Чытайце праз тыдзень:

- Як гэта – 20 гадоў адпрацаваць у культуры, загадваць дзяржаўнай установай, а потым усё кінуць і адкрыць уласную справу па правядзенні святаў? Чытайце гісторыю маладзечанкі Ларысы.



## 1 жніўня, субота

**Вецер:** паўночны, 6 м/с





### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература +5,6°С у 1968 годзе
Максімальная тэмпература +33,3°С у 1994 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 36,4 мм у 1989 годзе

Паводле meteoinfo.by.


Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№31 (1318) 31.07.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. ...... Падпісана ў друк у 9.00 30.07.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**





Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.